

# Беларус

**Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!**
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

**№ 373 Верасень 1990**
Год выд. XXXIX

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00


## ПРА ШТО ТРЭБА ДУМАЦЬ? ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ?

Яўген Лецка, старшыня аргкамітэту згуртаваньня «Бацькаўшчына», камэнтуючы «Зварот да Беларусаў сьвету» («Літаратура і Мастацтва», 10.VIII.90), выказаў спадзяваньне на дапамогу, якую эміграцыя можа даць Беларусі: «Шмат работы наперадзе і нашым душам, і розумам, і рукам! Дапамагчы нам у гэтым могуць нашы суайчыньнікі, якія жывуць у цывілізаваных краінах, набылі там вопыт і веды».

Алé, настаў мамэнт, калі роля эміграцыі драматычна ўзмацняецца. У меру таго як жыцьцё ў Савецкім Саюзе лібэралізуецца, перад эміграцыяй паўстаюць зусім новыя заданьні, і адно з галоўных — дзяліцца з суродзічамі з Бацькаўшчыны, з прадстаўнікамі новаствораных прадпрыемстваў, набытымі на Захадзе «вопытам (дазнаньнем) і ведамі», а таксама кантактамі з заходнімі ўстановамі й фірмамі.

Дасюль аднак мы, як арганізаваная грамада, ніколі не займаліся зборам інфармацыі, каб устанавіць, дзе гэтае наша дазнаньне й веда, колькі якіх мы маем спэцыялістаў, як зь імі скантактавацца пры патрэбе. А пры сучаснай тэндэнцыі разьвіцьця ў Савецкім Саюзе (калі ня здарыцца там нейкага раптоўнага залому, катаклізму), мы ўсё больш чуем ад людзей, што прыяжджаюць зь Беларусі, пра патрэбу кантактаў з мэдыкамі, інжынерамі, заканадаўцамі, пэдагогамі, мэнаджэрамі, спэцыялістамі тае ці іншае прафэсіі.

У Злучаныя Штаты, Канаду, Ангельшчыну, Нямеччыну прыяжджаюць прадстаўнікі Вярхоўнага Савету Беларусі, Беларускага Народнага Фронту, Акадэміі Навук, каапэратываў, школаў ды іншых установаў, і кожны зь іх нязвычайна рады, калі яму або ёй даводзіцца сустрэцца з суродзічамі-грамадзянамі заходніх краёў, якія маюць адпаведныя веды й кантакты ды здольныя дапамагчы ў наладжаньні сувязяў з патрэбнымі коламі для запачаткаваньня ці замацаваньня таго ці іншага інтарэсу.

Цяпер у Савецкім Саюзе запушчаецца ў ход працэс радыкальнай дэцэнтралізацыі эканамічных структураў (плян акадэміка Станіслава Шаталіна), цяжар эканамічнай ініцыятывы ўсё больш кладзецца на паасобныя рэспублікі. Свобода нясе за сабой, як ведама, і адказнасьць за стан справаў. Вось чаму абавязак усіх нас цяпер, палітычны і маральны абавязак — думаць і дзеіць, каб быць гатовымі дапамагаць Бацькаўшчыне «дазнаньнем і ведамі», спрыяць нашымі кантактамі з урадавымі й бізнэсаўскімі коламі дэмакратычным плыням на Беларусі ў праяўляньні эканамічнае ініцыятывы, бо ад гэтай ініцыятывы будзе ў вялікай меры залежаць выхад Беларусі з матар'яльнага і духовага крызісу.

Рыгор Барадулін

## ДА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім,
Зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасьць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі цiснулі
І хадзіць хацелі, як па тлі.
Нас душылі Волгамі і Віслямі —
Кожны тужыў зашмаргу пятлі.

Нас турылі з Бацькаўшчыны,
зь Дзедзіны.
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены.
Маем права мы на мазалі.

Нас палілі, катавалі, праталі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Каралі,
Забойцы,
Імпэратары,
І бацькі працоўных мас,
Калі

Беларусь, як палатніну, кроілі
На муньдзіры ды на каптаны.
І магілы з нашымі гэроямі
Уціскалі валуны маны.

Над сьвятынямі пазруйнаванымі
Паклянемся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі,
А ня Іванамі,
Што ня ведаюць свае радні!

Працавалі мы на ўсе імпэрыі,
Папрацуем на сябе,
Браты!
Дык адродзімся душой і вераю.
З намі Бацька Бог
І Дух Сьвяты!

*Літаратура і Мастацтва, 7.IX.1990*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЫМБОЛІКА ДАЗВОЛЕНАЯ!

Менскі гарсавет прыняў рэкамэндацыйную пастанову: кожны грамадзянін і калектыў дзяржаўнай установы ці грамадзкай арганізацыі свабодны пастанаўляць аб выкарыстоўваньні беларускай нацыянальнай сымболікі (бел-чырвона-белага сьцягу і Пагоні). У Менску на адным урадавым будынку вісіць ужо, разам са сьцягам Беларускай ССР, і бел-чырвона-белы сьцяг. Гэтак, паступова, пачынае ўжыцьцяўляцца яшчэ адзін пункт праграмы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

# ПРЫВІТАНЬНЕ АД ПРЭЗЫДЭНТА ДЖОРДЖА БУША
## 19-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

THE WHITE HOUSE

WASHINGTON

August 29, 1990

I am pleased to extend my warmest greetings to everyone gathered in Cleveland for the 19th Convention of the Byelorussians of North America. My special welcome goes to your guests from the Soviet Union.

During the past year, as courageous men and women have rekindled the fires of freedom across Eastern Europe, we have witnessed a resurgence of ethnic pride and cultural awareness both in that region of the world and in North America. The United States is a nation of immigrants, and we share a strong sense of kinship with the people of our ancestral homelands. Thus, we proudly cherish the many different customs and traditions that form so great a portion of our cultural heritage.

Celebrating the unique heritage of the Byelorussian people and the many contributions they have made to the United States and Canada, this gathering also underscores our feelings of friendship for those still living in your ancestral homeland. The people of Byelorussia are striving to build anew over the history of communism, and I join you in celebrating their renewed hopes for the future.

Barbara joins me in sending our best wishes for an enjoyable convention. God bless you.

[signature]

БЕЛЫ ДОМ

Вашынгтон

29 жніўня 1990 г.

Я з прыемнасьцяй перадаю свае найцяплейшыя прывітаньні ўсім, хто прыбыў на 19-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Я асабліва вітаю вашых гасьцей з Савецкага Саюзу.

На працягу апошняга году, у часе якога адважныя мужчыны й жанчыны распалілі агні свабоды па цэлай Усходняй Эўропе, мы сталіся сьветкамі адноўленага ўздыму этнічнай гордасьці і культурнай самасьведамасьці як у гэтым рэгіёне сьвету, гэтак і ў Паўночнай Амэрыцы. Злучаныя Штаты — гэта нацыя імігрантаў, і мы падзяляем моцнае адчуваньне роднасьці з народамі краёў нашага паходжаньня. Гэтак, мы з гордасьцяй перахоўваем шмат розных звычаяў і традыцыяў, зь якіх складаецца такая вялікая частка нашае культурнае спадчыны.

Ушаноўваючы унікальную спадчыну Беларускага народу і шматлікія выпадкі ўкладу, зробленага Беларусамі, у Злучаныя Штаты й Канаду, гэтая Сустрэча таксама падкрэсьлівае нашае пачуцьцё прыязьні да тых, хто жыве на вашых айчынных землях. Народ Беларусі імкнецца будаваць там, дзе камунізм будаваў, і я далучаюся да вашае ўрачыстасьці, якая адзначае ягоныя аднаўленыя спадзяваньні на будучыню.

Барбара далучаецца да маіх найлепшых пажаданьняў вам прыемнае сустрэчы. Блаславі вас Божа.

ДЖОРДЖ БУШ

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ 19-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

**ў Кліўленьдзе 1-3.IX.1990 г.**

Мы, удзельнікі 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, зьехаўшыся са Злучаных Штатаў, Канады, Беларускай ССР, Беласточчыны, Віленшчыны, Англіі, Францыі, Заходняй Нямеччыны ў беларускае селішча Полацак у городзе Кліўленьдзе, штат Агаё, ЗША, заслухаўшы прывітаньні ад Прэзыдэнта Джорджа Буша, Кангрэсу Злучаных Штатаў, прадстаўнікоў мясцовых уладаў ды ад беларускіх арганізацыяў, выслухаўшы выступленьне кангрэсмэнкі Мэры Роўз Оўкэр, урачыста дэкляруем:

1. Рабіць захады, каб дзяржаўныя і прыватныя сэктары заходніх краінаў аказалі гуманітарную дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, як гэта звычайна робіцца ў выпадках вялікіх катастрофаў. Імкнуцца адроджваць нацыянальную культуру, хрысьціянскую мараль і агульначалавечыя вартасьці.

2.Зьвярнуцца з просьбай ад імя беларускіх грамадаў у ЗША і Канадзе да Кангрэсу ЗША і Парляманту Канады, каб у Амэрыку й Канаду былі прынятыя квоты імігрантаў зь ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасьцяў чарнобыльскай зоны Беларусі.

3. Падтрымваць і далей дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту, скіраваную на ратаваньне жыхарства ад чарнобыльскай радыяцыі, на ратаваньне беларускае нацыі ад культурнага заняпаду, да якога давяла аднапартыйная сыстэма.

4. Рабіць захады для пабудовы коштам амэрыканскіх і канадзкіх фондаў анкалягічнага шпіталя ў Беларусі, у якім лячыліся-б ахвяры чарнобыльскай радыяцыі ды ў якім працавалі-б таксама і лекары з Амэрыкі й Канады.

5. Спрыяць усімі магчымымі спосабамі эканамічным і гандлёвым сувязям паміж амэрыканскімі, канадзкімі ды іншымі заходнімі фірмамі, з аднаго боку, і прыватнымі прадпрыёмствамі Беларусі, з другога.

6. Спрыяць пашыраньню й замацоўваньню дыпляматычных сувязяў Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады зь Беларускай Рэспублікай, Вярхоўны Савет якое абвесьціў 27 ліпеня сёлета Беларусь сувэрэннай дзяржавай.

7. Падтрымваць справу як мога больш шырокага навуковага, культурнага і турыстычнага абмену паміж Паўночнай Амэрыкай і Беларусяй, прыезду ў Злучаныя Штаты й Канаду беларускіх студэнтаў на навуку, спэцыялістаў featureснага профілю, у тым ліку сельскагаспадарчага, на практыку, моладзі на азнаямленьне з жыцьцём Беларусаў Амэрыкі й Канады.

8. Мы падтрымваем ініцыятыву аргкамітэту згуртаваньня «Бацькаўшчына» ў Менску дзеля аб'яднаньня Беларусаў сьвету, каб супольна спрыяць (кажучы словамі аргкамітэту са «Звароту да Беларусаў сьвету») «нацыянальнаму адраджэньню ўсяго беларускага народу, палітычнаму і эканамічнаму сувэрэнітэту Беларусі».

9. Мы вітаем намаганьні ў колах беларускага грамадзтва, ськіваваныя на рэалізацыю Закону аб дзяржаўнасьці беларускае мовы, які ўвайшоў у сілу ўчора, I-га верасьня 1990 году.

10. Мы зварачаемся з просьбай да ўладаў Беларускай ССР, каб было спынена накладаньне мыта на дазымэтры, якія жыхары Рэспублікі дастаюць ад сваіх суродзічаў з-за мяжы.

11. Мы выказваем непакой з прычыны наростаньня антыбеларускай акцыі на Беласточчыне, якая выяўляецца ў хлусьліай прэсавай кампаніі ды ў паленьні цэркваў і нішчэньні помнікаў беларускай культуры. Нас таксама трывожаць выпадкі частага прападаньня ў дарозе да адрасатаў у БССР і Польшчы беларусаведных публікацыяў, у тым ліку зборнікаў мастацкае літаратуры і навуковых артыкулаў, рэлігійных выданьняў.

12. Мы поўнімся надзеяй, што працэс дэмакратызацыі ў Беларусі будзе паглыбляцца й замацоўвацца, спрыяючы палепшаньню эканамічнага дабрабыту й культурнага росквіту Беларускага народу ды ўзмацненьню мірнага супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі, Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады.

Кліўленд, Агаё, ЗША
Нядзеля, 2 верасьня 1990 году

**19-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ**

## М. КУКАБАКА: «ЖЫЎ НЕ ПА ХЛУСЬНІ»

Беларускі іншадумец Міхал Кукабака дачакаўся нарэшце праўды пра сябе ў афіцыйным друку БССР. «Літаратура і Мастацтва» (24.VIII), пад заг. «Рэгабілітаваць пры жыцьці», зьмясьціла вялікі дакумэнтальны матар'ял Алеся Лукашука, сябры камісіі пры ВС БССР па правох ахвяраў рэпрэсіяў. Цытуюцца ў матар'яле і некаторыя дакумэнты ньюёркскага Камітэту абароны вязьняў сумленьня на Беларусі, газэты «Беларус» ды Беларускае сэкцыі радыё «Свабода».

Другі вялікі матар'ял пра Кукабаку, аўтарства таго-ж А. Лукашука, зьмешчаны ў папулярнай газэце «Знамя юности» (тыраж: 800 тыс. экз.). Лукашукоў артыкул (з фатаздымкам Кукабакі) — гэта, як зазначана ў падзагалоўку, «партрэт-хроніка іншадумца». «Іншадумцам» Кукабака застаецца й надалей: ён дамагаецца рэгабілітацыі. Але савецкая дзяржава сваіх памылак не прызнае. На паўторныя заявы аб рэгабілітацыі — адказ стандартны. Вось яшчэ адзін адказ Пракуратуры БССР, датаваны 9 жнівеня сёлета: «Ваша заява.,. пакінутая без задавальненьня на асновах, якія Вам ня раз паведамляліся раней».

Лукашук свой артыкул канчае словамі: «Божа, няўжо яны заўсёды будуць рэгабілітаваць толькі пасьмяротна?..»

Сяржук Сокалаў-Воюш

# КДБ: ШТО ХАВАЕЦЦА ЗА ШЫРМАЙ?

***Ад Рэдакцыі:*** *У савецкім друку шмат пішацца цяпер пра Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі (КДБ), пра дзейнасьць якога да перабудовы ня згадвалі нават энцыкляпэдыі ў СССР. Гэтак, газэта «Советская Белоруссия» (I.IX.90) перадрукавала з часапісу «Аргументы и факты» (№ 34/90) вельмі дапытлівае інтэрв'ю караспантэнта П. Лук'янчанкі з заступнікам старшыні КДБ СССР, начальнікам Першага Галоўнага Ўпраўленьня генэрал-лейтэнантам Л. Шабаршынам. У інтэрв'ю Шабаршын, між іншага, кажа, што ведамы амэрыканскі аўтар кніжак пра КДБ, Баран «і ягоныя суаўтары з ЦРУ былі-б зьдзіўленыя тым, наколькі сур'ёзна іх успрыймаюць інтэлігентныя людзі» ў Савецкім Саюзе. Шабаршын, зразумела, запярэчвае шмат якім выказваньням пра КДБ.*

*Таксама «Літаратура і Мастацтва» (7.IX.90) апублікавала матар'ял пра калектыўнае інтэрв'ю пісьменьнікаў з адным з адказных кіраўнікоў КДБ БССР і сакрэтныя дасюль купалаўскія й коласаўскія дакумэнты. Да гэтага востранадзённага пытаньня што да ролі КДБ у сучасным перабудовачным працэсе на Беларусі выказваецца ніжэй наш госьць Сяржук Сокалаў-Воюш.*

Нават перадсьмяротная агонія ёсьць барацьбой за жыцьцё. Сёньня такую агонію пачынае зазнаваць на сабе першая (і напэўна апошняя) ў сьвеце дзяржава «рабочых і сялян», якая з усіх сілаў імкнецца ператварыцца ў дзяржаву Чалавека. Яшчэ адчайна б'юцца за свае права на існаваньне старыя структуры, яшчэ стараюцца ўхапіць на разьвітаньне як найбольшы кавалак пірага дабрабыту старыя намэнклятуршчыкі, яшчэ сьпешна дабудоўваюць летнікі перадкатастрофныя партапаратчыкі, а просты люд у чаканьні новых часоў адчайна мітынгуе і тоне ў новым бязьвер'і.

У гэтым вялікім гамузе і бязладзьдзі спакойна адчувае сябе, здаецца, толькі адна арганізацыя — КДБ. Вайсковыя ахвіцэры і тыя адчулі пажар пад нагамі, а гэтым — усё нічога. Значыць, не гарыць зямля, значыць не зачапіла яшчэ за жывое, усё гэта азначае толькі адно: не дарэмна б'юцца за свае існаваньне старыя структуры, ня істотна хто і што імкнецца ўхапіць на разьвітаньне, марна мітынгуюць людзі і турбуюцца вайсковыя ахвіцэры...

Нечаканы выбух у Румыніі. Сакрэтныя службы — апошнія верныя Чаўшэску сілы... Чаўшэску? Рэжыму? Ня ўсё так проста, як здаецца на першы пагляд. У нашай краіне гэтыя сілы маўчаць. Выбрык генэрала Калугіна (думка не мая і ня новая), відаць, сапраўды толькі дэмарш КДБ, якое не сказала яшчэ аніводнага сур'ёзнага слова пад сьцягам дэмакратызацыі і галоснасьці. Між тым гэта тая арганізацыя, якая сёньня на працягу аднэй ночы можа зьмяніць уладу, забраць актывістых народнага руху і вярнуць краіну ў стан чорнага беспрасьвецьця. Так прынамсі выглядае на Беларусі і, я думаю, у некаторых іншых рэспубліках апошняе імпэрыі сьвету.

Чаму-ж маўчыць карны меч Вялікай Кастрычніцкай? А хто сказаў, што маўчыць? Ён гаворыць, але гаворыць ня словамі, а дзеяньнямі. Гляньма колькі народных дэпутатаў здрадзілі сваім перадвыбарчым абяцаньням. Жывы прыклад таму — дэпутат Вярхоўнага Савету БССР Лявон Тарасенка, які узьбіўшыся на пасаду, забыўся нават на родную мову, якой карыстаўся дагэтуль. Не бяруся сьцьвярджаць, што дэпутат Тарасенка — агент КДБ, але што ён ня вораг гэтай злачыннай арганізацыі — веру. Гэткая-ж і бальшыня іншых дэпутатаў.

Адчайна змагаюцца зь імі ў Вярхоўным Савеце БССР прадстаўнікі БНФ і дэмакраты, якія да іх далучыліся. Адчайна, але амаль безвынікова. Ці не таму маўчаць наступнікі Фэлікса Дзяржынскага? Маўчаць вонкава, бо патаемна стараюцца сустрэцца то з адным, то з другім актывістам, каб высьветліць: хто чым дыхае, якія мае слабасьці, каб пазьней можна было на іх згуляць. Зрэшты, гэта ня так і цяжка для арганізацыі, якая ведае пра нас з табой, дарагі чытач, значна больш чымся мы пра яе. Ну хто з вас, напрыклад, ведае, што вышэйшы, а можа і ўвесь партапарат стаіць на вайсковым уліку менавіта ў Камітэце Дзяржаўнай Бясьпекі? Хто з вас ведае, што хаваецца за гэтым улікам? Цемра... Таямніца... І генэрал Калугін маўчыць. Ці не таму так упэўнена адчуваюць сябе ў сваіх крэслах кіраўнікі БССР Сакалоў, Дземяньцей ды іхныя памагатыя? Ці не таму згаданы Сакалоў ня здымаў на 100-тысячным мітынгу ў Менску шапкі перад народам, калі той патрабаваў гэтага?

А ведаеце, як упэўнена адчуваюць сябе агенты КДБ, прыстаўленыя да людзей, што наведваюць замежжа? На працягу тыдня я назіраў такога чалавека недалёка ад сябе. Поўны спакой і ўраўнаважанасьць. Яно і зразумела. Баяцца няма чаго. Як той казаў: «У Багдадзе ўсё спакойна...», а калі так, то ўсё, што адбываецца ў СССР — фікцыя, блеф, мана, а агонія сыстэмы — шырма. Што хаваецца за гэтай шырмай? Што?

Кліўленд, 10-11 верасьня 1990 г.

# ЗАКУЛІСНЫ САЮЗНЫ ДАГАВОР

«Хто дзейнічае за сьпіной Вярхоўнага Савету (Беларусі)?» На гэтае пытаньне дамагаецца адказу Ўладзімер Грыбанаў, сакратар камісіі ВС БССР па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных дачыненьнях. Грыбанаў піша ў газ. «Знамя юности» (12.IX), што ў Маскве абмяркоўваецца ад імя Беларусі праект Саюзнага дагавору, пра які нічога ня ведае нават Прэзыдыюм ВС Рэспублікі. Працытаваўшы 14 пунктаў з гэнага праекту, Грыбанаў піша: «Няўзброеным вокам відаць, што Беларусь... пазбаўляе сябе сувэрэнітэту! Праект амаль кожным радком, кожным словам супярэчыць духу й літары нашай Дэклярацыі (аб сувэрэннасьці) ад 27 ліпеня гэтага году«.

Грыбанаў піша таксама, што «некаторыя высакапастаўленыя прадстаўнікі цэнтра» выказваюць «незадавальне з поваду таго, што БССР дамагаецца ад ураду СССР кампэнсацыі выдаткаў за Чарнобыль». Заступнік савецкага прэм'ера Рыжкова Дагужыеў сказаў: «Сёньня (Беларуская) рэспубліка дзейнічае чамусьці залішне самастойна й задзірліва ў гэтым (чарнобыльскім) пытаньні».

Дэпутат Грыбанаў запатрабаваў, каб была скліканая безадкладна надзвычайная сэсія ВС БССР для разгляду гэтых пытаньняў ды каб перамовы аб Саюзным дагаворы вяліся ня з цэнтрам, а паміж рэспублікамі пры ўдзеле цэнтру ды каб прадстаўнікі БССР кіраваліся «толькі палажэньнямі Дэклярацыі (аб сувэрэннасьці)».

# ПРАМОВА КАНГРЭСМЭНКІ МЭРЫ РОЎЗ ОЎКЭР

**На 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Кліўленьдзе 2 верасьня 1990 г.**

Дзякую за запросіны на вашу штодвухгадовую Сустрэчу ў гэты новы прыгожы Беларуска-амэрыканскі культурны цэнтар. Я вельмі добра чуюся тут сярод многіх сяброў, гэткіх як а. Міхась Страпко, настаяцель кліўлендзкай царквы імя Жыровіцкай Божай Маці, памочнік настаяцеля а. Якуб, а таксама Янка Ханенка, старшыня кліўлендзкага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, і ягоная мілавідная жонка Ліда. Ліда сьветчыла раней у гэтым годзе на кангрэсавых слуханьнях, на якіх я старшынявала ў Кліўленьдзе, аб зьменах, што трансфармуюць Усходнюю Эўропу, уключна зь Беларусяй.

Я хацела-б цёпла прывітаць з прыездам у нашу краіну і ў штат Агаё нашых шаноўных гасьцей зь Беларусі, у тым ліку зь Беларускай Акадэміі Навук і Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Прыемна бачыць, як масты да Беларусі, пра якія Ліда Ханенка гаварыла ў сваім сьветчаньні ў лютым, становяцца выразнай рэальнасьцяй.

Гэта гонар для мяне быць тут з вамі на беларускай сустрэчы і браць удзел у адчыненьні гэтага цудоўнага культурнага цэнтру. Гэта асабліва адпаведна цяпер, бо прагрэс, які дэманструе беларуская грамада тут у Кліўленьдзе, адлюстроўвае гістарычныя зьмены, што адбываюцца ў самой Беларусі. Як вы ўсе ведаеце, пазамінулага месяца быў зроблены важны крок да запаветнай мроі аб беларускай дзяржаўнасьці — беларускі парлямант у Менску прыняў дэклярацыю аб сувэрэннасьці і абвесьціў аб практычных мерапрыемствах да ўжыцьцёўленьня запраўднай дзяржаўнасьці.

Беларусь мае багатую тысячагадовую гістарычную традыцыю разам з калярытнай і унікальнай этнаграфічнай і літаратурнай спадчынай. І запраўды, беларуская мова была фіцыйнай у Вялікім Княстве Літоўскім ад XIV-га амаль да канца XVII-га стагодзьдзя. Трагічна, аднак, што Беларусь ляжала на скрыжаваньні гістарычных шляхоў, дзе мацнейшыя палітычныя і ваенныя сілы суседніх краёў падкасілі імкненьні беларускага народу да незалежнага палітычнага і культурнага існаваньня. На працягу стагодзьдзяў Беларусь мусіла змагацца, каб выжыць у абліччы паланізацыі, а на працягу апошняга паўтара стагодзьдзя — русыфікацыі. Нават само ўжываньне беларускай мовы было забаронена ў 1860-х гадох, каб гэтым выкараніць нацыянальную сьведамасьць цэлае нацыі. А да гэтага трэба дадаць жудасныя страты, панесеныя ў часе войнаў, акупацыяў і дзяржаўнапаліцыйнага тэрору.

Гэта выдатны довад моцнага характару і сілы волі беларускага народу, што ён раней у гэтым стагодзьдзі здолеў перамагчы дзесяцігодзьдзі культурнага й палітычнага ўціску ды арганізавацца ў нацыянальную рэспубліку, якая абвесьціла ў Менску сваю незалежнасьць 25 сакавіка 1918 году. Намаганьні ўраду БНР аднавіць поўнасьцяй правы беларускай мовы й адрадзіць культуру ды ўстанавіць палітычную незалежнасьць сталіся правадной зоркай для наступнага 70-годзьдзя. Сталінскі ўціск і эканамічны застой, што былі вынікам заганнае эканамічнае філязофіі, пакінулі свой сьлед, але Беларусы яшчэ раз прадэманстравалі глыбіню сваіх каранёў і свае нацыянальнае сьведамасьці. Гістарычная пастанова беларускага парляманту ўлетку сёлета аб аднаўленьні нацыянальнае сувэрэннасьці паказвае на цьвярдое жаданьне заняць годнае месца сярод народаў сьвету. Пра гэта сьветчыць шырокае ўжываньне нацыянальнага сьцягу і старажытных сымбаляў Беларусі. Высьвячэньне вашага культурнага цэнтру ў Стронгсвіле ў Кліўленьдзе — таксама довад наважанасьці Беларусаў тут, у гэтай частцы сьвету.

Беларусь сёньня стаіць перад шмат якімі праблемамі. Чарнобыль, пэўнаж, пакінуў сьмяротны, трагічны сьлед па сабе. Я бачу, што сярод вас тут ёсьць сп. Генадзь Грушавы, дэпутат Вярхоўнага Савету БССР. Сярод сваіх многіх абавязкаў сп. Грушавы выконвае таксама абавязкі старшыні камітэту «Дзеці Чарнобыля». Апрача жудасьцяў ядзернае забруджанасьці, Беларусь мусіць таксама даваць рады з выкідамі прамысловасьці ды іншымі злаўжываньнямі, у выніку якіх панішчаная зямля, забруджаныя паветра й воды. Эканамічныя няспраўнасьці, нястачы ды закарэненая бюракратыя спрычыняюць дэфіцыт і цяжкасьці.

Гэта засмучае, але ёсьць і надзея. Беларусы разам зь іншымі народамі Савецкага Саюзу прыходзяць да ўсьведамленьня, што яны самі мусяць знайсьці развязку праблемам. Пераймаючы ў свае рукі кантроль над эканамічным і палітычным лёсам, яны могуць пачаць справу ачышчэньня прыроднага навакольля (і свае мовы) ды наладзіць больш эфэктыўныя сродкі забясьпечваньня жыхарства харчамі і спажывецкімі таварамі. Той самы працэс, паўтораны ў розных рэспубліках Савецкага Саюзу, дасьць магчымасьць свабодным народам супрацоўнічаць дзеля развязаньня супольных праблемаў. Гэта ня будзе лёгка. Ёсьць моцныя сілы, што хочуць захаваць імпэрыю някранутай, незважаючы на праблемы й нястачы. Аднак ходу назад няма. Наладжаньне дабрабыту і ўтрымоўваньне міру залежаць ад творчых сілаў свабодных людзей, якія ўстанаўляюць самі прыярытэты і самі развязваюць свае праблемы.

Злучаныя Штаты могуць адыграць важную ролю ў паяўленьні свабоды й дэмакратыі ўва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе. Я ўжо сустракалася зь немалым лікам высакакваліфікаваных і самаадданых грамадзкіх працаўнікоў у тэй частцы сьвету. Яны ўсе хочуць амэрыканскай і заходняй дапамогі і спрыяньня ўва ўстанаўленьні рыначнае эканомікі, у разьвіцьці культурыных, гандлёвых і палітычных кантактаў. Працягваючы руку тым, хто шукае нашых парадаў і супрацоўніцтва, мы памагаем самі сабе. Мы адчыняем рынкі і адчыняем сваю сьведамасьць для новых пунктаў погляду. Працэс адраджэньня Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы толькі пачынаецца, але мы ўжо наладжваем пазытыўныя кантакты й рэальнае супрацоўніцтва.

Сьвет хутка мяняецца. Вы, што сабраліся ў гэтай залі, таксама ладна спрычыніліся да гэтых зьменаў. Тут прысутныя дэлегаты з больш як дзесятка штатаў і правінцыяў Паўночнае Амэрыкі і зь дзесяцёх розных краінаў. Я цьвёрда веру, што хваля свабоды й самавызначэньня, сьветкамі якое мы сталіся па цэлай Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе, была пушчаная ў рух у вялікай меры намаганьнямі самаахвярных і нястомных арганізацыяў, гэткіх як вашыя, ува ўсіх чатырох кутох сьвету. Вы выказваліся за асноўныя свабоды й фундамэнтальныя прынцыпы тады, калі іншыя ня мелі магчымасьці зрабіць гэта. Вашы штагоднія сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці, вашыя малітвы кожнага тыдня ў царкве ды нязьлічоныя лісты й тэлефонныя званкі да ўрадаўцаў дапамаглі стварыць палітычнае й філязофскае асяродзьдзе, якое прысьпешыла дэклярацыю сувэрэннасьці гэтым летам у Менску: ідэі гэтай ужо нельга было больш зацiскаць.

Будуючы на груньце свае айчыннае спадчыны і нагадваючы сьвету праўду пра сваю мінуўшчыну, вы дапамаглі пакласьці аснову для новае рэчаіснасьці ў Беларусі. Беларусь стаіць перад страшэннымі выпрабаваньнямі. Яна стаіць таксама на парозе захаплялыных магчымасьцяў. Я жадаю вам далейшых удачаў і выказваю свае найлепшыя пажаданьні, паколькі вы, як і шмат іншых людзей у сьвеце, працуеце на карысьць лепшай будучыні для свайго народу і ўсіх дзяцей Божых. Будзьце пэўныя, што я ў Кангрэсе падтрымаю вас. Дзякую за ўвагу.

# АДОЗВА

## Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» ДА ХРЫСЬЦІЯНАЎ СЬВЕТУ

Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС 26 красавіка 1986 году сталася страшнай бядой для народу Беларусі. Больш за 2 мільёны чалавек апынуліся ў заражанай зоне. З намаганьняў грамадзкасьці пачалі рабіцца пэўныя захады, каб ўратаваць людзей.

Натуральна, у першую чаргу лекі, мэдычная дапамога, магчымасьць выехаць аддаецца дзецям. Імі апякуецца створаны БНФ камітэт «Дзеці Чарнобыля«, узначалены народным дэпутатам Беларусі Генадзем Грушавым.

Але старыя, пэнсіянэры асуджаныя паміраць на адзіноце ў заражанай «зоне» — бяз мэдычнае дапамогі, бяз чыстых прадуктаў, харчаваньня, бяз людзкога спачуваньня, бяз споведзі.

Мы зьвяртаемся да хрысьціянаў сьвету. Просім сабраць сродкі дзеля пабудовы дому-інтэрнату для адзінокіх старых людзей, што пацярпелі ад Чарнобыльскае катастрофы, каб яны мелі прытулак, хлеб надзённы, мэдычную дапамогу і словы суцяшэньня. Ахвяраваньні можна дасылаць на адрасы Цэркваў, якія дапамагаюць БНФ у гэтай справе:

Apostolic Visitor for Byelorussians
Marian House, Holden Avenue, London N 12 8HY, England;

Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
0 River Road, Highland Park, New Jersey 08904, USA;

Byelorussian Orthodox Church of St. Euphrosynia
P.O. Box 26, SO. Whitehead Avenue, South River, New Jersey 08882, USA.

Будзем вельмі ўдзячныя, калі да акцыі міласэрнасьці далучацца вернікі іншых рэлігійных цэнтраў. Хай вялікае людзкое гора лучыць усіх вернікаў і нявернікаў, дае ім сілы на спагаду і спачуваньне.

Арганізуйце цэнтры дапамогі старым — ахвярам Чарнобыля! Дапамажэце ўратаваць народ і яго еднасьць!

Кантактныя адрасы на Беларусі:

220047, Беларусь, Менск
вул. Несьцерава, 82-13
Трыгубовіч Вяляньціна
Тэл.: 43-55-17

220090, Беларусь, Менск
вул. Кальцова, 8-3-76
Вайткевіч Вячаслаў
Тэл.: 62-45-72

Прынятая ўправаю БНФ «Адраджэньне» 9 ліпеня 1990 году.

# АМЭРЫКАНСКАЯ КНІЖНАЯ ВЫСТАЎКА Ў БЕРАСЬЦІ

У Брэсьце ў аўторак 2-га кастрычніка адчыніцца 11-дзённая амэрыканская кніжная выстаўка, прысьвечаная 50-годзьдзю Другой сусьветнай вайны. На выстаўцы ў Доме мастацтва будуць паказаныя апрача кніжак таксама фатаграфіі і абразы, прысьвечаныя ўдзелу ЗША ў вайне з фашысцкай Нямеччынай і самурайскай Японіяй.

Каб беларускаму наведніку тэма выстаўкі была лепш зразумелай, Інфармацыйнае агенцтва ЗША выдала на люксусовай паперы, багата ілюстраваную беларускамоўную брашуру пад заг. «Змаганьне за свабоду. Злучаныя Штаты ў Другой сусьветнай вайне». У брашуры расказваецца пра ход вайны, пра матар'яльную дапамогу, якую Амэрыка дала Савецкаму Саюзу па прагараме гэтак званага ленд-лізу. У брашуры чытаем:

«Паводля прэзыдэнцкага дакладу Кангрэсу аб ленд-лізаўскіх апэрыяцыях, частковы сьпісак тавараў, завезеных Савецкаму Саюзу ў пэрыядзе паміж 7 лістапада 1941 году і 20 верасьня 1945 году ўключаў у сабе наступнае: 4.062.000 мэтрычных тон харчоў, 14.795 самалётаў, 7.056 танкаў, 51503 джыпы, 375.883 грузавікі, 8.071 трактар, 8.218 зэнітак, 131.633 аўтаматы, 313.650 мэтрычных тон узрыўчаткі, 1.981 лякаматыў, 11.155 таварных вагонаў, 90 транспартных караблёў, 105 зьнішчальнікаў падводных лодак, 197 тарпэдных лодак, 2.540.000 мэтрычных тон сталі, 2.422.000 мэтрычных тон нафты, 764.000 мэтрычных тон хэмікаліяў, 3.786.000 шын і 15.417.000 пар армейскіх чаравікаў».

Беларускамоўная брашура, выдадзеная 15-тысячным накладам, будзе раздавацца на выстаўцы як сувэнір. Па-беларуску на выстаўцы будуць аформленыя таксама подпісы пад фатаграфіямі і малюнкамі.

На выстаўцы будзе англамоўны і беларускамоўны гід, сп. Вацлаў Мельяновіч.

650 кніжак, што будуць выстаўленыя ў Берасьце, застануцца гораду ў падарунак ад Злучаных Штатаў. Гэткія выстаўкі адбудуцца таксама ў Адэсе (19-30. X) і Валгаградзе (5-18. XI).

Выстаўка савецкіх кніжак, адпаведнік амэрыканскай, адбылася ў Чыкага (17-28. IX) ды адбудзецца ў гарадох Спрынгфілдзе (1-5. X), Провідэньсе (10-19. X) і Даласе (27. X — 5. XI).

# ПРЫВІТАНЬНЕ АД БЕЛАРУСКАЙ СУПОЛКІ Ў ЛЕНІНГРАДЗЕ

**19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі**

Дарагія сёстры і браты!

Дазвольце перадаць Вам шчырае прывітаньне ад Беларускай суполкі ў Ленінградзе і падзяку за запрашэньне на сёньняшні збор.

Мы бачым наш сёньняшні збор залогам далейшага пашырэньня братніх сувязяў і больш цеснага супрацоўніцтва Беларусаў ва ўсім сьвеце на карысьць нашага народу, нашай Бацькаўшчыны.

Суполка ў нашым горадзе сабралася, здаецца, больш чым год назад, але праца над пашырэньнем нацыянальнай самасьвядомасьці даволі плённа. На яе концы — і сустрэчы зь беларускімі дзеячамі культуры зь Беларусі і ЗША, і паездкі з дакладамі і лекцыямі ня толькі на навуковыя канфэрэнцыі, але й з асьветніцкімі мэтамі ў беларускія суполкі тых гарадоў, дзе не хапае беларускіх асьветніцкіх сілаў, напрыклад, у Маскву, Талін, Рыгу, у некаторыя гарады Беларусі, дзе, на жаль, валодаюць асьветніцкай сытуацыяй няпрыхільныя беларускаму нацыянальнаму адраджэньню сілы.

Маем трывалыя сувязі, як Вы чуеце, зь беларускімі суполкамі ў іншых гарадох. Бо рух наш разьвіваецца паўсюдна. Хочацца верыць, што нішто ня зможа спыніць яго.

У нас працуе лекторый па гісторыі і культуры Беларусі, адчыняюцца курсы беларускай мовы для тых, хто хоча ўзнавіць матчына слова ў сваіх душах. Для гэтага ёсьць магчымасьці: наяўнасьць сьвядомых вучоных-гуманітарыяў у горадзе, іхнае жаданьне працаваць для ўзнаўленьня беларускага духу ў горадзе, дзе нашы землякі ўтрывалілі сябе сваімі працамі.

Пецярбург ад свайго заснаваньня цесна зьвязаны зь Беларусамі. Беларусамі з паходжаньня былі першая імпэратрыца Расеі Кацярына І, адзін зь першых камэндантаў гораду Пецярбургу князь Аляксандар Меншыкаў. У Пецярбург траплялі воляй ці няволяй такія ведамыя палітычная і культурныя дзеячы з нашага краю, як Тадэвуш Касьцюшка, Міхал-Клеафас Агінскі, ведамы вучоны-праваназнаўца Ігнат Даніловіч, арцыбіскуп Сестранцэвіч, паэты Адам Міцкевіч і Аляксандар Ходзька. Тут працавалі сусьветна ведамыя вучоныя родам зь Беларусі: географы Урончанка і Чэрскі, лекары Красоўскі і Мержаеўскі, адвакат і выдавец Спасовіч, гісторыкі браты Сямеўскія. Тут працавалі шматлікія генэралы родам зь Беларусі, сярод якіх былі два ваенныя міністры Расеі.

На жаль, усе ці амаль усе з вучоных, вайскоўцаў, дзеячоў культуры працавалі на карысьць іншаму народу, ня нашай дзяржаве. «Вымываньне мазгоў» зь Беларусі — справа даўная.

Але былі грамадзкія дзеячы ў Пецярбургу, якія рабілі шмат чаго і для вызваленьня Беларусі, для яе нацыянальнага самаўсведамленьня. Як не прыгадаць тут братоў Каліноўскіх, заснавальнікаў народніцкай групы «Гоман», і ўрэшце братоў Луцкевічаў, якія сталі ля вытокаў Беларускага Адраджэньня. Працавала тут беларуская суполка і ў 1920-30-я гады.

Мы хочам працягваць традыцыі Беларусоў, якія будавалі разам зь іншымі народамі культуру Беларусі, адчуваць сябе Беларусамі тут у воддалі ад роднага краю.

Хай дапаможа нам лёс у гэтым.

Жыве Беларусь!

**В. Зубкоўскі**

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЦЁ Ў ВІЛЬНІ

**Гутарка Івонкі Сурвілы з Валянтынам Стэхам, старшынём віленскай «Сябрыны», на Сустрэчы ў «Полацку».**

**І.С.:** Нядаўна я мела нагоду паглядзець відэарэпартаж з падарожжа «Васілька» ў Вільню. Ці можна было-б паставіць Вам колькі пытаньняў у сувязі з гэтай падзеяй?

**В. С.:** Бязумоўна, калі ласка.

**І. С.:** Віленшчына была заселеная ў бальшыні Беларусамі. Вы сказалі тут учора, што паводля афіцыйнага перапісу насельніцтва ў Літве жыве цяпер каля 63-х тысячаў Беларусаў. І вось-жа рэпартаж паказвае, што віленская заля, дзе выступалі «Васілёк», «Жывіца» і Сокалаў-Воюш, ня была запоўненая. Ці нашыя суродзічы ў Літве не зацікаўленыя праявамі беларускай культуры? Ці мо' ёсьць нейкае іншае тлумачэньне?

**В. С.:** Па-першае, заля, у якой адбываўся канцэрт, прадбачаная на тысячу асобаў. Так што, магчыма, выглядала публікі й менш, як яе было ў сапраўднасьці. Апрача таго, да апошняга мамэнту мы ня ведалі, ці прыедзе «Васілёк». Хоць Вільня прасіла, каб прыехаў, «радзімаўцы», як выглядае, нічога не зрабілі, каб гэта сталася. Канцэрт «Васілька» адбыўся ў аўторак 27-га, а яшчэ ў сыботу 24-га пытаньне дазволу «Васільку» паехаць у Літву абмяркоўвалася ў Вярхоўным Савеце Беларусі. Была атрыманая вусная згода міністра нутраных справаў БССР. Але нядзеля — выхадны дзень, і толькі ў панядзелак 26-га чэрвеня, у канцы дня, атрымалі пісьмовы дазвол. А на наступны дзень адбыўся канцэрт.

Тым ня менш, надзеі мы ня трацілі, бо пытаньнем гэтым быў заняўшыся ў Менску Пётра Садоўскі. У панядзелак «Сябрына» апублікавала абвесткі ў дзьвюх газэтах, перадала іх па літоўскім радыё тры разы і дала абвестку на літоўскім тэлебачаньні. Бяручы пад увагу тое, што нам было дадзена так мала часу, каб абвесьціць канцэрт, прысутнасьць у залі каля 400 асобаў, на маю думку, ня так ужо й дрэнна. Між іншага, было на канцэрце літоўскае тэлебачаньне, якое заўсёды з ахвотай адгукаецца на нашыя запросіны. Вінцук Вячорка даў інтэрв'ю ў праграме «Панарама», спачатку па-літоўску, а пасьля па-беларуску, а сп. Папруга, які ў Народным фронце належыць да камісіі па справах Віленшчыны, адказаў па-беларуску на пытаньні карэспандэнта.

**І. С.:** Было моцна прыгнятаючым бачыць, што на мэмарыяльнай дошцы нашаму нацыянальнаму гэрою Кастусю Каліноўскаму, надпісы толькі па-літоўскую і па-расейску.

**В. С.:** Мэмарыяльная дошка, замацаваная на Дамініканскім касьцеле, дзе Кастусь Каліноўскі быў увязьнены, цяпер аднаўляецца. Яна будзе на літоўскай мове і беларускай. Заказ ужо зроблены. Новая дошка будзе замацаваная як толькі скончаць рамантаваць касьцёл. Таксама аднаўляецца дошка з барэльефам, прысьвечаная Францыщку Скарыну на доме, у якім ён друкаваў свае кнігі. Выпускаюцца за кошт дзяржавы памятныя мэдалі (500 штук, бо-ж 500-годзьдзе) і будуць устаноўленыя дзьве шыльды на вуліцы Скарыны на літоўскай і беларускай мовах. Усё гэта з нашай ініцыятывы і цалкам узгадняецца з намі. Увосень будзе праведзеная ў Вільні навукова-практычная канфэрэнцыя, прысьвечаная 500-годзьдзю Скарыны, і будзе выдадзеная кніга Лявяса Ўладзімірасава. Узнаўляецца таксама шыльда на доме, у якім жыў Браніслаў Тарашкевіч у Вільні, і робіцца новая шыльда, якая будзе змацаваная на доме, у якім жыў Пётра Сяргіевіч. Яны таксама на літоўскай і беларускай мовах.

**І. С.:** Ці маглі-б Вы сказаць, што Вы думаеце пра магчымасьць вярнуць Вільню Беларусі?

**В. С.:** На сёньняшні дзень уважаем, што гэта нерэальнае, бо пярэчыць Гэльсынскім пагадненьням і тэй палітцы, якая праводзіцца Гарбачовам у Саюзе. На сёньняшні дзень, мы сваё заданьне бачым у тым, каб абудзець нацыянальную сьведамасьць Беларусаў, каб вярнуць ім іхную гістарычную памяць. З гэтай мэтай мы выкарыстоўваем нашы радыё- і тэлеперадачы, а таксама пэрыядычны друк у розных мовах. Свайго ўласнага пэрыядычнага выданьня мы ня маем, але зьмяшчаем старонкі беларускія пад заг. «Пагоня» ці «Сябрына» ў літоўскіх газэтах. Зьмяшчаем у расейскамоўных, літоўскіх і нават польскіх газэтах артыкулы аб дзеячох беларускай культуры на Віленшчыне. Асьвятляем гісторыю беларускага культурнага жыцьця на Віленшчыне. Перапахавалі Франьцішка Аляхновіча з Кальвінскіх могілкаў (скасаваных) на могілкі Росы і рыхтуемся да перапахаваньня Івана Луцкевіча з Польшчы. У наступным годзе будзе перапахаваны (сымбалічна) Ўладзімер Жылка.

Найслабейшае месца нашай грамадзкай дзейнасьці — гэта тое, што мы па сёньняшні дзень ня маем уласнагва памешканьня і свайго пэрыядычнага выданьня. Калі-б мы маглі спадзявацца на нейкую дапамогу з боку нашай эміграцыі на Захадзе ў сэньсе набыцьця друкарскай тэхнікі, то адзін бок гэтай праблемы быў-бы вырашаны.

**І. С.:** Шчыра дзякую за гутарку.

# АБ ЭКАНАМІЧНЫХ СУВЯЗЯХ БССР

У газэце «Голас Радзімы» за 26 ліпеня сёлета выдрукаване інтэрв'ю з прадстаўніком Беларусаў Беласточчыны, шыракаведамым грамадзкім і палітычным дзеячом, пісьменьнікам Сакратам Яновічам. У інтэрв'ю ў асноўным закранутыя праблемы жыцьця Беларусаў Беласточчыны ў сувязі зь пераменамі палітычнае сытуацыі ў Польшчы. Але ў інтэрв'ю, якое правяла журналістка Дзіяна Чаркасава, былі таксама закранутыя пытаньні, якія адносяцца ня толькі да Беларусаў Беласточчыны, але й да ўсіх Беларусаў, асабліва ў БССР.

А гэта справы эканамічныя. Сакрат Яновіч сказаў, што добра было-б, каб Беларусы Беласточчыны маглі гандляваць з Савецкай Беларусьсю: «Добра было-б, сказаў Яновіч, каб узьнікла хаця-б адна эканамічная зона, дзе адбываўся-б свабодны гандаль, як гэта робіцца ў Эўропе». Ясна, што гэткая эканамічная зона была-б важнай і для Беласточчыны, і для БССР. Рэспубліка мела-б доступ да сельскагаспадарскіх прадуктаў, сьвежых, не забруджаных радыяцыяй, ды гэта разьвівала-б ініцыятыву прадпрыймальніцтва безь ніякага дыктату з боку маскоўскага цэнтру. Ці-ж раз пісалася ў рэспубліканскім друку, што адна зь цяжкасьцяў у разьвіцьці рэспубліканскае эканомікі — гэта адсутнасьць ініцыятывы, няведаньне, як і што рабіць самастойна.

Варта прыгадаць, што ў 1920-х гадох Савецкая Беларусь была куды больш свабоднай і гэткую ініцыятыву выказвала. Прыкладам, беларускія тавары збываліся ў Амэрыцы. Паводля дадзеных часапісу «Сацыялістычнае Будаўніцтва» ды і іншых крыніцаў, у 1927-28 гадох Савецкая Беларусь экспартавала ў Злучаныя Штаты тавараў блізу на мільён рублёў. Шмат якія вырабы рэспублікі карысталіся ў Амэрыцы попытам. Прывозілася ў ЗША і беларускае сэлекцыйнае насеньне. Прадстаўнікі БССР наведвалі таксама Нямеччыну і Італію, каб і там прадаваць беларускія вырабы. Напрыканцы дваццатых гадоў Савецкая Беларусь мела эканамічныя дачыненьні з блізу 10-ма краінамі. У трыццатых гадох усякая ініцыятыва з боку БССР як на эканамічнай глебе, гэтак і палітычнай была спыненая. Пачаўся «застой».

Цяпер-жа гэткую ініцыятыву праяўляць вельмі важна. Возьмем для прыкладу Югаславію: югаслаўскія прадстаўнікі патрапілі выйсьці на амэрыканскі рынак з асабовым аўтамабілем ЮГО, хоць, як ведама, Югаславам у аўтамабільнай вытворчасьці канкураваць з Амэрыкай нялёгка. Тымчасам ЮГО ў Амэрыцы прадаецца, а вось аб трактары «Беларусь» бадай нічога і ня чуваць.

Іншы аспэкт, які Сакрат Яновіч закрануў у інтэрв'ю ў газэце «Голас Радзімы», гэта праблема распаўсюджаньня беларускае кніжкі. Проста цяжка даць веры, што нават і ў Польшчы атрымаць беларускую кнігу можна толькі праз Маскву. Аб гэтай праблеме ў беларускім замежным друку пісалася ўжо ці раз. Гэта самая асноўная прычына, чаму заходняэўрапейскія і амэрыканскія бібліятэкі маюць цяжкась-

*(Працяг на 6-й б.)*

# ЗВАРОТ ДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ СУСТРЭЧЫ

**Беласток, 14 жніўня 1990 г.**

Паважаныя Спадарыні й Спадары!

Прымеце шчырыя прывітаньні ад Беларускай рэдакцыі беластоцкага радыё.

Зь 1 сакавіка гэтага году беластоцкае радыё перадае ў эфір штадзённую 15-хвілінную беларускую перадачу «Пад знакам Пагоні». З паловы ліпеня час перадачаў павялічыўся да паўгадзіны штадня. Перадачы карыстаюцца вялікай папулярнасьцю на Беласточчыне і ў заходніх раёнах Гарадзеншчыны і Берасьцейшчыны. У перадачах закранаюцца палітычна-грамадзкія, культурныя і рэлігійныя пытаньні, якія хвалююць беларускае асяродзьдзе Беласточчыны.

Рэдакцыя імкнецца ў меру сваіх магчымасьцяў узмоцніць лучнасьць са слухачамі. Адной з праяваў гэтага зьяўляюцца конкурсы і адгаданкі па пытаньнях беларускай культуры і гісторыі. На жаль, рэдакцыя ня ў змозе забясьпечыць пераможнікам належныя і вартасныя ўзнагароды. Таму зьвяртаемся да Вас, паважаныя ўдзельнікі Сустрэчы, з просьбаю аб дапамозе ў фінансаваньні ўзнагародаў пераможнікам.

Наша рэдакцыя трымае сталую лучнасьць зь Беларускай рэдакцыяй радыё «Свабода» ў Мюнхэне. Таму мы папрасілі сп. Вячаслава Станкевіча, каб ён быў выказьнікам гэтае нашае просьбы перад Вамі.

Ад Беларускае рэдакцыі
беластоцкага радыё
**Юрка Ляшчынскі**

# КЛІЎЛЕНДЗКІЯ СПАТКАНЬНІ 1990

### Гутаркі Зоры Кіпель з гасьцьмі Сустрэчы

Нашыя гутаркі з удзельнікамі сустрэчаў Беларусаў Паўночнай Амэрыкі сталіся ўжо традыцыяй. Сёлетняя сустрэча асаблівая, бо было-ж гэтак шмат гасьцей з розных краінаў. Як ніколі дагэтуль, 19-ю сустрэчу можна было назваць сапраўды сусьветнай сустрэчай Беларусаў — і па шырыні рэпрэзантацыяў, і па колькасьці й разнаякасьці цікавых гасьцей. Вось-жа дзеля гэтага й было вырашана рабіць інтэрв'ю толькі з гасьцьмі.

Пачалося інтэрв'ю, зусім «прафэсійна», з прадстаўнічкай беластоцкай «Нівы». Падчас нашай гутаркі нехта нават жартам заўважыў: «Хто апытвае каго?»

**АДА ЧАЧУГА, адказны сакратар рэдакцыі газэты «Ніва»:**

Мы сапраўды не памыліліся, калі думалі, зьвяртаючыся ў пасольства па візы, што едзем на сусьветны зьезд Беларусаў. Ён сапраўды сусьветны — з усіх краёў зьехаліся Беларусы. Вакол гучыць беларуская мова з рознымі акцэнтамі. Вельмі мне спадабалася, што так усе затрымалі сваю мову. Праўда, толькі старэйшыя, зь невялікім выключэньнем малодых. Як спаткалася з «Васількамі» ў Беласточчыне, там яны ўсе гаварылі па-беларуску, а тут тыя самыя, ужо чую, гавораць міжсобку па-ангельску.

У Амэрыцы я першы раз. Атрымала запросіны і ад спадарства Бартулёў, і ад сп. Шукелойця, афіцыйна ад БАЗА як журналіст «Нівы». Вельмі ўдзячная, што мяне запрасілі. Гэтак прыемна тут пабачыцца з суродзічамі. Вельмі мне спадабаўся кліўлендзкі «Полацак», тутэйшая ахвярная калёнія. Гэтакі будынак збудавалі! Усё прадумана, прадугледжана. Праўда, крыху мала толькі беларускіх упрыгожаньняў, але яны гэта хіба яшчэ паправяць — цяпер ім не было часу.

**МАРЫЯ МІЦКЕВІЧ, навуковы супрацоўнік Акадэміі Навук, дэпутат Менскага раённага савету, і, хоць яна ня любіць гэтым афішавацца, унучка Коласа:**

Першы раз у Амэрыцы. Прыемна спаткацца ў гэтым асяродку зь людзьмі, якія ведаюць беларускую мову, якія так добра згуртаваныя і якія нам дапамагаюць і спачуваюць. Вельмі мяне цешыць, што тут спаткала сваякоў з роду Міцкевічаў. Я чуюся гэтак добра сярод людзей зь беларускай мовай, бо ў нас рэдка чуваць свая мова, хіба толькі сярод сяброў БНФ «Адраджэньне». Чакаю на канцэрт Данчыка. Яго прыезд зрабіў такі вялікі ўплыў на беларускую моладзь — заснаваўся клюб Данчыка. Хацелася-б, каб усе нашыя кантакты захаваліся й надалей, каб новыя знаёмствы замацоўваліся, каб паміж намі паўстаў паважны дыялёг.

**ЛЕАНІД КАЗЫРА, навуковы супрацоўнік Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы:**

Ведаў раней, што беларускія Амэрыканцы маюць добрую традыцыю раз на два гады праводзіць гэткія сустрэчы, але ня ведаў, як гэта адбываецца, хто прыяжджае, і таму вельмі прыемна быць на гэтай 19-й, асабліва ў гэтым прыгожым новым будынку. Гэты куточак беларускай зямлі даў магчымасьць людзям спаткацца з розных краінаў. Проста кранае душу. На такія сустрэчы трэба каб і надалей зьбіраліся людзі — адкуль-бы яны ні прыехалі — на абмен думкаў, на сяброўскія дыскусіі й спрэчкі. Так заўсёды бывае, калі спаткаюцца людзі блізкія па думках, у гэтым выпадку, па этнасу — ёсьць шмат аб чым гаварыць.

Усе вельмі прынялі да сэрца трагедыю Чарнобыля — з-за мяжы паступаюць мэдыкамэнты, зь якіх ужо дзеці, сотні й тысячы людзей скарысталі і будуць карыстаць. Вельмі вам усе ўдзячныя за дапамогу й спагаду — мы ў сваёй бядзе не адчуваем сябе адзінокімі.

**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН, шэф сталай місіі БССР пры Аб'яднаных Нацыях:**

На падобнай сустрэчы я ўпяршыню. Уражаньні воістрыя й прыемныя. Асабліва цешыць, што тут людзі роз-



*Генадзь Бураўкін, шэф місіі БССР пры ААН, дае інтэрв'ю Зоры Кіпель.*

ных пакаленьняў — і сталыя, і сярэдняга веку, і зусім маладыя — гэта значыць, што беларуская ідэя жыве доўга й мае добрую будучыню. Яшчэ адна прыемная асаблівасьць, што на сустрэчы людзі розных паглядаў, розных тэмпэрамэнтаў, розных сьхільнасьцяў і сымпатыяў, але тут няма канфліктаў. Тут, як мне здаецца, шчырае жаданьне працаваць на дабро нашай супольнай Бацькаўшчыны. І ў гэтай справе знойдзецца месца і для прадстаўніка Беларусі ў Аб'яднаных Нацыях.

**ГЕНАДЗЬ ГРУШАВЫ, сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту, народны дэпутат БССР, старшыня камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля»:**

Першы раз у Амэрыцы. Вельмі ўразіла тое, што так актыўна зьбіраюцца суайчыньнікі. Мроі аб вольнай, незалежнай Беларусі жывуць і падтрымліваюцца. На сёньняшні дзень гэта галоўна — каб была маральная падтрымка. Перамальнасьць ідэі незалежнасьці ў гэтай залі заўважаецца вельмі выразна. Вось у гэтым сэньсе сустрэча гэтая вельмі важная. Пасьля таго як абвесьцілі сувэрэнітэт Беларусі ўсё глядзіцца ў аптымістычных фарбах — ёсьць надзея, што гэта зьдзейсьніцца. На жаль, тут ня шмат тых, што на Бацькаўшчыне ў цяжкіх умовах змагаліся, кабператварыць гэтую мару ў жыцьцё. Тое, што мы тут усе разам з тымі, хто працаваў ужо гадамі для гэтай ідэі, і што мы цяпер працуем супольна — гэта добры знак.

**ЮРКА СЯНЬКОЎСКІ з радыё «Свабода», Мюнхэн.**

Я першы раз на сустрэчы, хоць у Амэрыцы ўжо быў колькі разоў. Грандыёзнае ўражаньне — па-першае, новы будынак, ахвярнасьць людзей, якія так шмат уклалі энэргіі, працы й грошай у гэтую будоўлю. Хоць выкончвалі ў апошнюю хвіліну, але ўсё выглядае вельмі добра, усё залагоджана як найлепш. Зьехалася сюды і беларуская нацыянальная эліта з усіх канцоў сьвету. Спаткаў шмат старых знаёмых і пазнаёміўся з новымі. Вельмі прыемнае ўражаньне робяць людзі зь Беларусі іхным патрыятызмам. Зьдзівіла й зрабіла моцнае ўражаньне вялікая ўвага амэрыканскіх уладаў — мясцовых уладаў са штату Огаё ды, асабліва, Прэзыдэнта Буша, якія добра абазнаныя зь беларускімі праблемамі.

**АЛЯКСАНДАР ІВАНЮК, дырэктар агульнаадукацыйнага ліцэю ў Гайнаўцы:**

У Амэрыцы першы раз. Амэрыка робіць на чалавека ўвогуле вялікае ўражаньне. Краіна далёкая для нас, эўрапейцаў, мае свае спэцыфічныя элемэнты. Краіна шматэтнічная, ну, і высокі ўзровень жыцьця. Калі гаварыць аб сустрэчы, дык вялікае ўражаньне робіць агромны ўклад працы кліўлендцаў. Усё тое, што мы тут пабачылі, сьветчыць аб вялізарным высілку як арганізацыйным, гэтак і матар'яльным. Сам будынак дае магчымасьць на гэткія сустрэчы ды на далейшае надзейнае існаваньне асяродку. Цэнтар гэты станецца на ўсе часы вечным помнікам тым ахвярным Беларусам, якія ўклалі тут сваю працу.

Самая сустрэча зьвяртае на сябе ўвагу перш за ўсё вялікай колькасьцю Беларусаў з розных краінаў сьвету. Гэта дае магчымасьць падзяліцца з суродзічамі сваімі ўражаньнямі, сваім лёсам, сваімі турботамі ды клопатамі. Гэта вядзе да роздуму, што лёс нашай Бацькаўшчыны ў руках усіх Беларусаў.

**ЯНКА МІХАЛЮК, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі:**

Бываў ужо ці раз у Амэрыцы, дый на сустрэчы ўжо другі раз. Але сёлетняя, хіба, перакрочыла ўсе папярэднія. Сам будынак — гэта сымбаль і прыклад для ўсіх нас, гэта паказальнік, што мы можам усе зрабіць, калі працуем дружна разам. Гэта падбадзёрвае да дзейнасьці, як мэдыкамэнт які. Прыезд прадстаўнікоў зь Беларусі асабліва цешыць. Сапраўды, тое, на што мы гадамі чакалі й спадзяваліся, — збываецца. Нічога нас не магло разлучыць. У нас больш супольнага, чым розьніцаў. Вось гэта ўсё, што я хацеў-бы зазначыць, але параю пагаварыць са сп. Баяроўскім.

**МІХАСЬ БАЯРОЎСКІ, старшыня адзьдзелу ЗБВБ у Бірмінгаме:**

Другі раз на сустрэчы — быў мінулы раз у Тароньце — але першы раз на амэрыканскай. Вельмі прыемная сустрэча, асабліва што маем столькі гасьцей зь Беларусі, зь Беласточчыны, зь Віленшчыны. Гэтая новая заля будзе прыцягваць гасьцей. Прыемна было пабачыць усіх артыстых: «Жывіцу», беластоцкую моладзь ды, зразумела, «Васілька», які нядаўна быў у Беларусі. Я таксама нядаўна прыехаў зь Беларусі, куды мы з а. Надсонам завозілі мэдыкамэнты, якія былі перададзеныя ў шпіталі ў Баранавічах, у Менску, Гомелі й Хойніках, што 35 км. ад Чарнобыля.

Спадзяюся, што гэтыя сустрэчы Беларусаў будуць далей прадаўжацца зь яшчэ большай прысутнасьцю людзей зь Беларусі і наагул Беларусаў з усяго сьвету.

**АНАТОЛЬ АБРАМЧЫК, старэйшы рэфэрэнт Беларускага Таварыства «Радзіма»:**

Вельмі шмат чуў пра Кліўленд, бо нашая дэлегацыя была ўжо тут. Першае ўражаньне — фантастычнае. За такі кароткі час збудавалі яны гэткі будынак. Самі рабілі, самі ўкладалі грошы. Цэлы цэнтар добры ў сваім

*(Працяг на 8-й б.)*

# «ПОЛАЦАК»



*Мамэнт з урачыстасьці закладзінаў Беларускага грамадзкага цэнтру «Полацак» 20 жніўня 1989 году. На пярэднім пляне (зьлева): Андрэй Стрэчань са сьцягам, Янка Ханенка, старшыня адзьдзелу БАЗА, з сынам, настаяцель прат. а. Міхась Страпко, настаяцель сэрбскай царквы мітр. прат. Аляксандар Радэнковіч, новы сьвятар іераманах Якуб, царкоўны стараста Адам Пракаповіч і старшыня грамадзкага цэнтру «Полацак» Сяргей Карніловіч. Фота К. Калошы.*



*Новы будынак Беларускага грамадзкага цэнтру «Полацак» у Кліўленьдзе.*

Зора Кінель

# БРЫТАНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Усякае падарожжа Беларусаў у Ангельшчыну пачынаецца зь Лёндану, інакш кажучы са «Скарынаўкі», як ужо прынята пяшчотна называць Беларускую Бібліятэку й музэй імя Ф. Скарыны.

Вось-же й нашае сёлетняе пачалося 17 ліпеня якраз з гэтага аазісу беларускай культуры. Спаткаліся там, зразумела, з а. Надсонам ды спадарствам Міхалюкамі, зь якімі так прыемна пагасьцявалі. Быў у бібліятэцы сп. Пікарда, які цяпер падрыхтоўвае сэрыю беларускіх рэлігійных сьпеўнікаў. Шмат зь ім разважалі пра беларускую музыку — ён сапраўды знаўца й любіцель яе. Працавала там і Амэрыканка чэшскага паходжаньня Ольга Недэлковіч з Чыкага, якая цікавіцца беларускай культурай сераднявечча.

Я, на жаль, нядоўга змагла гэтым разам папрацаваць у бібліятэцы, бо ехала далей на канфэрэнцыю бібліятэкараў-славістаў у Кембрыдж. У гэтым старым унівэрсытэцкім горадзе было шмат цікавых спатканьняў — бібліятэкары з Амэрыкі, Заходняй і Ўсходняў Эўропы, зь Літвы, Латвіі, Эстоніі, з Масквы й Ленінграду, з Украіны, нават з Грузіі, але, на жаль, ня было нікога зь Беларусі. Шмат зь кім давялося пазнаёміцца й выкарыстаць новыя знаёмствы для пошукаў патрэбных беларускіх матар'ялаў. Паміж заняткамі на канфэрэнцыі мела й вельмі прыемную нагоду наведаць бібліятэку Кембрыджскага Ўнівэрсытэту з маёй новай знаёмай і калегай Ірэнай Пазьдзеевай, знаўцам старой кнігі. Там змагла пастудыяваць Скарынаў Псалтыр з Малой Падарожнай Кніжкі выдадзенай у Вільні ў 1522 годзе. У кнізе былі крыху пазьнейшыя, праўдападобна 17-га стагодзьдзя, рукапісныя нататкі-маргіналіі, асабліва цікавымі былі польска-беларускія вершаваныя павучэньні. Гэта быў амаль самы прыемны дзень з усяго майго пабыту ў Кембрыджы.

Праз колькі дзён, у суботу, далучыўся да мяне й Вітаўт — ён у міжчасе працаваў у Скарынаўцы ды наведаў сп. А. Лашука — і мы паехалі на далейшую канфэрэнцыю ў Гарагейт — 4-ты сусьветны кангрэс вывучэньня Савецкага Саюзу і Ўсходняй Эўропы.

Гарагейт знаходзіцца даволі далёка на поўнач ад Лёндану. Па дарозе цешыліся прыгожым ангельскім краявідам і былі, хоць на кароткі час, турыстамі.

У Гарагейце новыя спатканьні, новыя знаёмствы, новыя абавязкі. Беларускія дзьве сэсіі пачыналіся ўжо адразу на наступны дзень, у нядзелю 22 ліпеня. У суботу яшчэ спаткаліся з Алесем Баршчэўскім, Джымам Дынглі, Томам Бэрдам і Янкам Запруднікам. Ды яшчэ з адным Беларусам з Ангельшчыны, які, пачуўшы беларускую гутарку Кіпеля й Барскага, зьявіўся да іх і ўжо пазьней часта быў з намі.

Беларускія сэсіі, ды й шмат іншых сэсіяў, дзе дыскутаваліся беларускія тэмы, прайшлі вельмі памысна (падрабязьней аб іх гл. артыкул Я. Запрудніка). Было на іх шмат як старых, гэтак і новых знаёмых: апрача ўжо ўспомненых, Арнольд Макмілін, Вера Рыч, Віктар Свабода, украінскі навуковец зь Лёндану, вельмі цікавы малады навуковец гомельскі Беларус Алег Барадзін, які цяпер працуе ў Маскве. Ён шчыра цікавіўся ўсім беларускім і прыходзіў на ўсе нашыя паседжаньні. Дзівіўся, што мы на эміграцыі захавалі беларускую мову й культуру ды вядзем беларусаведную працу і выбачаўся, крыху бянтэжачыся свайго слабога веданьня беларускае мовы.

Трэба гэта зазначыць, што й на гэтай канфэрэнцыі было больш за сто дэлегатаў з Савецкага Саюзу, аднак нікога ня было зь Беларусі. Меў быць Барыс Сачанка, але й ён, дзеля нейкай нявед амай прычыны, ня прыехаў. Які вялікі жаль! Якая вялікая шкода, што на гэткіх міжнародных канфэрэнцыях няма Беларусаў зь Беларусі.

Пасьля Гарагейту зноў у Лёндан, у Скарынаўку, бо мелі яшчэ там папрацаваць. Гэтым разам у бібліятэцы а. Надсона ня было — ён паехаў на Беларусь з цэлым грузавічком мэдыкамэнтаў і прыладаў на дапамогу беларускім ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Вітаў нас тут зноў сп. Міхалюк, хоць, праўда, мы ўжо мелі й свае ключы. Добра быць сябрам шаноўнага айца!

У бібліятэцы цяпер улетку завозна. У той-жа вечар, 24 ліпеня, калі вярнуліся мы, прыехалі ў бібліятэку і брат зь сястрой зь Менску Віталь Зайка і Галіна Бачыла. У Ангельшчыне яны на запросіны знаёмых Ангельцаў, але не прамінулі Скарынаўку, аб якой так шмат ужо чулі добрага. Сп. Зайка — фізык, але вывучае гісторыю вуніі на Беларусі, а Галіна — эканамістка. Мы зь імі шмат разважалі, дзяліліся думкамі пра эміграцыю, пра падзеі на Беларусі, пра беларускую мову й культуру. Між іншага, нашыя новыя знаёмыя дасканальна валодаюць беларускай мовай і цікавяцца ўсім беларускім. Яны штодня прыходзілі ў бібліятэку й працавалі. Сталы тут наведнік і Юрка Гапанюк, беластоцкі студэнт. Прыходзілі пераглядаць новыя газэты й часопісы ды пагутарыць і мясцовыя Беларусы. Заглядаў у бібліятэку й а. Кастусь Маскалік. Гай Пікарда — Француз з паходжаньня, Ангелец з нацыянальнасьці, а Беларус з замілаваньня — у бібліятэцы, як у сябе дома: прыходзіць студыюе, насьпеўвае сабе пад нос, любіць і пагутарыць па-беларуску. Аднаго вечару разгаварыліся яны зь Віталем Зайкам і выявілася, што абодвы крыху валодаюць японскай мовай, дык у беларускай бібліятэцы пачулася й японская мова.

Вечар перад нашым ад'ездам быў асабліва актыўны. Прыйшлі спадарства Міхалюкі. Хутка да нашай, ужо сталай групкі — Пікарда, Зайкі, Кіпелі — далучылася рэшта беларускай дэлегацыі з Гарагейту: Том Бэрд, Джым Дынглі, Алесь Баршчэўскі і Надзя Керэчук, Украінка з Бразыліі, якая цікавіцца беларусікай. Янка Запруднік застаўся яшчэ на поўначы, у ваколіцах Брадфарду, дзе шмат Беларусаў, і меў там цікавыя спатканьні са старымі занаёмымі й сябрамі.

Зноў загула Скарынаўка. Сп-ня Лёля Міхалюк змайстравала хуткі пачастунак з прывезеным Джымам Дынглі беларускім салам — знайшлося й да сала. Добра, што ня было а. Надсона, бо ён не дазволіў-бы такой прафанацыі бібліятэкі. Аднак я, як бібліятэкар, пільнавала, каб ўсё было прыстойна й акуратна.

Раніцай наступнага дня, 27 ліпеня, яшчэ пасьпелі даць інтэрв'ю сп. Баршчэўскаму для беластоцкай «Нівы». Праводзіла нас зноў цэлая грамада.

Бывай, Скарынаўка, да наступнай сустрэчы!

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| А. Лашук | ам.д. 190 |
| М. Раецкі | 59 |
| А. Бяленіс | 40 |
| М. Грэбень | 40 |
| Г. Шэйпак (за продажу кніжак) | 221 |

***Набывайце ў БІНіМ зборы твораў Н. Арсеньневай, А. Салаўя, А. Саковіч і інш.***

# ДВА ДАКЛАДЫ ПРА ТВОРЧАСЬЦЬ В. БЫКАВА

**На сусьветным кангрэсе ў Гарагейце ў Англіі**

Сярод 1200 дакладаў, прачытаных на 4-м сусьветным кангрэсе вывучэньня СССР і Ўсходняй Эўропы, два даклады былі прысьвечаныя творчасьці Васіля Быкава.

Прафэсар Мічыганскага ўнівэрсытэту (ЗША) Дэмінг Браўн гаварыў пра характар аповесьцяў Быкава, адзначыў галоўныя асаблівасьці быкаўскае прозы: маральную праблематыку, адсутнасьць панарамных баталіяў, незацікаўленасьць у ваеннай стратэгіі як такой. Стыль у Васіля Быкава, сказаў дакладчык, вобразны й эканомны. Праф. Браўн дзеліць аповесьці Быкава на тры тэматычныя катэгорыі: (1) прысьвечаныя франтавому змаганьню, (2) партызанскаму змаганьню і (3) жыцьцю ў акупаванай Беларусі. Творы апошняй катэгорыі, паводля Браўна, найбольш уражвальныя й дасьпелыя.

Браўн адзначыў як адзін зь цікавых элемэнтаў быкаўскае ваеннае прозы пластычнасьць у апісаньнях фізычнага навакольля — лесу, поля, балота, дарогі — часта ўва ўмовах жорсткага надвор'я. У гэткім суровым асяродзьдзі выпрабоўваецца сіла чалавечага характару, апісваецца глыбіня пакутаў. Дабрачыннасьць быкаўскіх гэрояў, зазначыў Браўн, амаль ніколі не ўзнагароджваецца, Быкаў — пісьменьнік пануры і пэсымістычны. Браўн адзначыў як асаблівую вартасьць пісьменьніка ягоную здольнасьць убудоўваць у свае пэрсанажы сацыяльную гісторыю Савецкага Саюзу, упаасобку гісторыю Беларусі. Дасьледнік выказаў шкадаваньне, што з прозай Быкава ён ня можа азнаёміцца ў арыгінале, а мусіць чытаць расейскі пераклад, у якім, сказаў ён, напэўна некаторыя якасьці арыгіналу страчаныя.

Вызначаючы якасьці аповесьцяў Быкава на фоне расейскае літаратуры, Браўн адзначыў талстоўскі характар гэтых твораў, але, сказаў ён, зацікаўленасьць Быкава маральнымі пакутамі чалавека, цярпеньнем нявіннага, паходжаньнем зла — гэта моцны элемэнт, які мы бачым у Дастаеўскага.

У дыскусіі над дакладам было адзначана, што расейскамоўныя пераклады аповесьцяў Васіля Быкава грэшаць цэнзурнымі купюрамі, выкасаванымі мясьцінамі з нацыянальна-беларускімі элемэнмі. Была выказаная прапанова, каб на якой-небудзь канфэрэнцыі прысьвяціць асобны даклад параўнаньню арыгіналаў і расейскіх перакладаў аповесьцяў Васіля Быкава.

Брытанскі спэцыяліст беларускай літаратуры праф. Арнольд Макмілін, гаворачы пра ваенныя аповесьці В. Быкава, адзначыў нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць пісьменьніка, якога група студэнтаў з Наваполацку слушна назвала «сумленьнем нацыі». Макмілін гаварыў пра пасьлядоўную грамадзянскую адвагу Быкава як ранейшымі часамі, гэтак і ў перабудовачным пэрыядзе, пра цкаваньне яго ў такіх публікацыях, як «Политический собеседник» і «Вячэрні Мінск».

У спрэчках было адзначна, што Васіль Быкаў працягвае быць пісьменьнікам-наватарам у сэнсе ўздыманьня новых тэматычных пластоў, гэткіх як роля рэлігіі ў жыцьці грамадзтва, сталіншчына як прычына калябаранцтва зь Немцамі або жорсткасьць савецкіх партызанаў у дачыненьні да мясцовага жыхарства.

**Янка Запруднік**

***«ВАСІЛЬ БЫКАЎ: АДКОПВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ МІНУЎШЧЫНЫ»***

Пад гэткім загалоўкам часапіс World Literature Today, літаратурны квартальнік Аклягомскага ўнівэрсытэту (вясна 1990, бб. 251-258) зьмясьціў артыкул Джозэфа Мозура, выкладчыка Паўдзённа-Алябамаўскага ўнівэрсытэту. Праф. Мозур дасьледуе творчасьць В. Быкава на фоне апошніх падзеяў у Беларусі, асабліва Чарнобыля і Курапатаў.

«Усім ваенным аповесьцям Быкава, — піша дасьледнік, — характэрная неверагодна графічная ўвага да пачуцьцяў і рэаліяў франтавога жыцьця, і тым ня менш, хоць вораг і сьмерць становяць канстанту ягонай прозы, галоўны матыў твораў Быкава — не змаганьне насьмерць зь Немцамі ды іхнымі калябарантамі, а канфлікты сярод савецкіх салдатаў і партызанаў ды розная рэакцыя гэтых людзей на навакольнае зло. Гэта стаецца тым больш ясным, калі разгледзець творчасьць Быкава як цэласьць. (...) У пэўным сэнсе Быкаў выкарыстоўвае экстрэмальныя сытуацыі ў сваёй прозе, каб выпрабаваць сумленьне ягоных гэрояў, а фактычна ягоных чытачоў».

Артыкул праф. Мозура грунтоўна ўдакумэнтаваны, паказвае добрае разуменьне аўтарам сучаснага стану ў БССР і напісаны ясным стылем.

**Я. З.**

# АБ ЭКАНАМІЧНЫХ СУВЯЗЯХ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

ці разбудоўваць беларускія кнігазборы: на экспарт беларуская кніжка выходзіць толькі праз усесаюзнае агенцтва «Международная книга.» Маскоўская біюракратыя гэтым забівае два зайцы: кантралюе пашырэньне беларускае культуры і ў нейкай меры абмяжоўвае эканамічную самастойнасьць рэспублікаў выдавецтваў, пазбаўляючы іх цьвярдое валюты. Відаць, гэткі стан з распаўсюджваньнем беларускае кнігі трывае й да цяпер. Прыкладам, і ў ЗША, і ў Заходняй Эўропе знаходзяцца цяпер розныя дэлегацыі рэспублікаў улучна з прадстаўнікамі кніжнае гандлёвае сеткі. На жаль, нідзе няма прадстаўнікоў беларускіх выдавецтваў. Некаторыя бібліятэкі ў ЗША маюць цяжкасьці набыць, прыкладам, апошні пераклад аповесьці Васіля Быкава «Знак бяды», які выйшаў у БССР.

Відавочна, што эканамічныя праблемы, якія закрануў у інтэрв'ю Сакрат Яновіч, вельмі актуальныя для Беларусі і бясспрэчна, што Беларусь магла-б быць куды ў лепшым эканамічным стане, калі-б сучаснае кіраўніцтва рэспублікі было ў адпаведных руках.

# ПАДЗЯКА АД «ЗАРАНКІ»

Дзіцячы садок «Заранка» (№ 376) у Менску дзякуе Беларусам Амэрыкі за шчодрыя падарункі, якія прыёз з сабою ансамбль «Васілёк». Усе падарункі — магнітафон, наборы каляровых алавікоў, камплеты прыладаў для заняткаў і шмат чаго іншага — вельмі ўзбагацяць нашыя заняткі і паспрыяюць замацаваньню ўзаемасувязяў. Шчырая падзяка таксама Юрку Азарку, Кастусю Шаршуновічу і Людміле Багун за ахвяраваныя грошы, за якія будзе набыты японскі фотаапарат, каб рабіць хроніку жыцьця нашага садка.

Карыстаючыся нагодай, каб падзякаваць усім дарагім суродзічам у Нью-Ёрку, упаасобку сям'і Андрусышыных, сп. Антону Шукелайцу, сп-чне Раісе Станкевіч і сп. Янку Запрудніку, за гасьціну і цёплае сяброўства.

Зь любоўю да ўсіх —

**Галіна Прыма**

## «ДЗЕНЬ ЧОРНАЕ ІСТУЖКІ» Ў АТАВЕ

Працягваючы традыцыю папярэдніх гадоў, прадстаўнікі нацыянальных групаў з краінаў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы арганізавалі ў сталіцы Канады маніфэстацыю з нагоды 51-х угодкаў пагадненьня паміж Гітлерам і Сталінам, ведамага ў гісторыі як «пакт Рыбэнтропа-Молатава». Маніфэстацыя праходзіла перад Парлямантам. Было зачытанае прынагоднае пасланьне ад прэм'ера Канады Браяна Мулроні. Сярод прамоўцаў выступаў прадстаўнік ад Лібэральнай партыі.

Ад Парляманту ўдзельнікі маніфэстацыі накіраваліся ад Аўтаўскага ўнівэрсытэту, дзе ў адной з заляў прайшоў сход з дакладам і дыскусіяй на тэму "Змаганьне за дэмакратыю ў Савецкім Саюзе і ўва Ўсходняй Эўропе».



*Пасьля маніфэстацыі перад Парлямантам Беларусы адказваюць на пытаньні карэспандэнта. Сьцяг трымае Рыгор Хрэноўскі. Фота Янкі Сурвілы.*

Беларускі нацыянальны сьцяг на маніфэстацыі несьлі студэнты Ларыса і Рыгор Хрэноўскія.

**Я. В.**

## КАНАДЗКІ ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

Зь ініцыятывы сп-ні Івонкі Сурвілы, рэфэрэнта вонкавых сувязяў Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, і др. Зінаіды Гімпелевіч-Шварцман, яшчэ ў 1989 годзе быў заснаваны Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі (КФДАЧБ). Сёлета гэты фонд дастаў статус дабрачыннай арганізацыі, (Charity status), што дазваляе ахвярадаўцам сьпісваць з падаткаў ахвяраваныя ў фонд грошы. Да рады кіраўнікоў Фонду, апрача вышэй названых асобаў, належаць: др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, др. Барыс Рагуля, былы старшыня ККБК, Архіепіскап БАПЦ Мікалай, сп. Мікола Ганько, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады.

17-18 жнівеня сёлета ў Атаве адбыўся сход рады кіраўнікоў КФДАЧБ, на якім было выбрана кіраўніцтва Фонду ў складзе: Івонка Сурвіла — старшыня, Паўліна Пашкевіч-Сьмітс — сакратар, Зінаіда Гімпелевіч-Шварцман — скарбнік. Іншыя функцыі былі падзеленыя паміж сябрамі рады кіраўнікоў Фонду.

Выканаўчы камітэт ККБК і рада кіраўнікоў Фонду горача заклікаюць усіх Беларусаў і ўсіх людзей добрае волі адгукнуцца на гора й пакуты нашых суродзічаў-ахвяраў чарнобыльскай радыяцыі ў Беларусі.

Чэкі выпісваць на:
Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Byelorussia і слаць на адрас: Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Byelorussia P.O. Box 4779, Station E, Ottawa, Ont. K1S5H9.

*(Паводля Камунікату №1/90 Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады)*

### РАДЫЯХВАЛІ «СВАБОДЫ»

На просьбу чытачоў падаём: беларускія праграмы РС ад 30.IX да 30.III перадаюцца ў гадзінах (UTC/GMT): (1) 3-3:30; (2) 5-6:30; (3) 15-16; (4) 19-20. Хвалі: (1) 3995, 5970, 7200, 9715; (2) 6130, 7180, 955, 11770; (3) 7200, 9505, 11970, 15130; (4) 3990, 6135, 7155, 9505.

**Яўген Гучок**

* * *

*Вярбовая галінка*
*І коцікі на ёй —*
*Зусім бы ланцужынка*
*Між небам і зямлёй.*

* * *

*Сваёй душы хто ня імкнецца*
*З Сусьветам, з Богам спалучаць, —*
*Дык халадзільнік з унітазам*
*Сабою будзе ён злучаць.*

* * *

*Людзі слоў, натоўпу людзі!..*
*Справы іх у розным блудзе*
*І таму на Божым судзе*
*Ой нялёгка ўсім ім будзе.*

* * *

*За Сонцам, за зоркай кожнай —*
*Сусьвет бясконцы, бясцэнны,*
*А за партрэтамі ўсепераможных —*
*Сьцэны, глухія сьцэны.*

*РАДЗІМА*

*У гонар твой князі і каралі,*
*Паэты і гэрої дбалі многа,*
*А для мяне-ж ты —*
*й месца на Зямлі,*
*Дзе я зьявіўся,*
*каб успомніць Бога.*

Менск, 1990 г.

## ПРА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ НА БЕЛАРУСІ

Амэрыканская каталіцкая газэта National Catholic Register (July 29, 1990) зьмясьціла артыкул свайго карэспандэнта Джонатана Люксмора, які жыве ў Варшаве й падарожнічае па Ўсходняй Эўропе. Сп. Люксмор наведаў у ліпені Менск, быў навочным сьветкам дэманстрацыі, арганізаванай Беларускім Народным Фронтам. Ягоны артыкул, пад заг. «Абуджэньне. Царква ў Беларусі сталася голасам нацыянальнае надзеі», зьмешчаны на першай старонцы газэты ды ілюстраваны вялікім фатаздымкам менскіх дэманстрантаў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, акружаных міліцыянтамі.

Каталіцкая царква, піша Люксмор, адыграе важную ролю ў сьцьверджаньні беларускае нацыянальнае тоеснасьці пасьля дзесяцігодзьдзяў жорсткага ўціску. Карэспандэнт называе прозьвішчы некаторых удзельнікаў дэманстрацыі — Алеся Гуркова, Зянона Пазьняка — падае інфармацыю пра БНФ, апісвае агульнае палажэньне ў Беларусі, зазначае, што адраджэньне рэлігійнасьці і нацыянальных пачуцьцяў на Беларусі зьвязанае таксама з чарнобыльскай катастрофай ды выкрыцьцём сталінскіх злачынстваў у Курапатах.

*Ліст у Рэдакцыю*

## ПРА ЕПІСКАПА МАЦЬВЕЯ І АЙЦА ЎСЕВАЛАДА

Зь вялікай цікавасьцю прачытаў я ліст сп. В. Ракуця («Беларус», № 352, кастрычнік 1988). Я таксама хацеў-бы падзяліцца сваімі ўспамінамі аб сьв. пам. Епіскапе Мацею Семашку і а. Ўсеваладу / Вісарыёну Яськову.

Епіскап Мацей (Мацьвей) ня быў архіепіскапам, быў епіскапам. Па нацыянальнасьці быў Украінцам з Холмшчыны і тытулаваўся Епіскапам Віленскім. Быў епіскапам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, хоць апошнім часам тут у Англіі быў у юрысдыкцыі Грэцкай Царквы.

Епіскап Мацей быў вялікім паланафілам, адпраўляў малебны за Польшчу, падпісваўся пад апэляцыямі на збор грошай для польскіх грамадзкіх эміграцыйных установаў, як прыкладам, тэатр. Наколькі мне ведама, не рабіў Епіскап Мацей закліку на збор грошай на пабудову ці куплю праваслаўнай царквы ў Лёндане.

Са сьв. пам. Ўсеваладам Яськовам я пазнаёміўся яшчэ падчас вайны ў Палестыне. Зрабіў ён на мяне няпрыемнае ўражаньне. Быў ён тады ў польскай арміі ген. Андэрса капэлянам і меў рангу капітана. Паказваў сябе больш Паляком-афіцэрам, чым сьвятаром. Казані ў расейскай царкве ў Ерусаліме гаварыў папольску. А ягоная-ж польская мова была страшэнная! Мала гэтага, нагрудны крыж насіў на добра адпрасаванай бел-чырвонай істужцы. І рабіў усё гэта ў тым часе, калі ў польскім корпусе была дыскрымінацыя праваслаўных, а непаўналетніх хлапцоў у юнацкіх школах Палякі перахрышчвалі з праваслаўных на рыма-католікаў.

Па вайне а. Усевалад пасяліўся ў Манчэстэры ў Ангельшчыне. Тут быў вялікі прыход, але ня доўга. Айцец Усевалад часта граў у карты (брыджа) ў польскім клюбе, больш цікавіўся Палякамі, чым царквой, прыхаджанамі. Нічога дзіўнага, што ў хуткім часе адыйшлі ад ягонага прыходу Украінцы, Расейцы, Беларусы. Зь вялікага прыходу засталася жменька людзей. Ня было выхаду — перабраўся ў Амэрыку (у Рокфард).

Як там было ў Амэрыцы, ня ведаю. Але чытаў яго лісты з Амэрыкі. Вось што пісаў а. Усевалад (ужо а. Вісарыён) 4. III. 1963 г. ў лісьце з Рокфарду ў Англію (даслоўна):

«...Тоска страшная, общества никакого, а мои милые прихожане — это НЕ общество, это большинство 'полешуки' сильно разбогатевшие, но не поумневшие и у них иной заботы и иной цели в жизни нет, как только собирание денег и то всеми правдами и неправдами. Они привыкли дома есть вьюнов (живыми) и охотно бы съели 'живцом' и их очень уважаемого батюшку, но не на того напали...»

От у якіх няпрыгожых словах адзываўся праваслаўны сьвятар аб сваіх прыхаджанах, як дзякаваў людзям, што яго ўтрымлівалі. Але мае камэнтары тут не патрэбныя: словы а. Ўсевалада гавораць самыя за сябе...

З пашанай,

**М. Швэдзюк**

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## ЗВАРОТ

**Ініцыятыўнай групы «Чырвоны Касьцёл»**

Шаноўныя Спадарыні й Спадары!

Беларускі народ з божай ласкі належыць да ліку народаў божых, бо й за нас, Беларусаў, узышоў на крыж Сын Божы Ісус Хрыстос. Вы пагодзіцеся з намі, што й нашай нацыі трэба глыбокая вера у выжавальную місію Хрыста, і дапаможа нам у гэтым паводле нашага перакананьня сьвятая Рымская Каталіцкая Царква. Несумненна тое, што ў беларускіх касьцёлах праслаўляць Бога неабходна на мове, у якой пусьціў нас на белы сьвет наш Нябесны Бацька. Уводзячы абавязковую службу божую ў касьцёлах Беларусі на мове карэннай нацыі, здабудзем той сілы, якая стане непераадольнай на шляху чорных сілаў, што імкнуцца да падзелу Беларусаў на Палякаў і Рускіх.

Беларуская мова ёсьць нашай уласнай сьвятыняй і скарбам, пасланым нам самім Богам, і таму павінна стаць мовай зносінаў нацыі з Творцам. Кожны Беларус павінен прыняць чынны ўдзел у сьвятой справе Адраджэньня нацыянальнай каталіцкай царквы, якая найбольш блізкая душы й сэрцу Беларуса. Умацоўваючы апору каталіцкай царквы, мы здолеем дасягнуць агульнага поступу да лепшай долі нацыі, бо правільная пастаноўка адносінаў нас да Бога ёсьць мацунак дабрабыту нашай Бацькаўшчыны.

Усё часьцей Беларусы для размовы з Богам прыходзяць у касьцёл, бо лічаць, што толькі ён здольны наталіць духоўны голад і быць пасрэднікам паміж душою верніка ды Богам. Беларускамоўны каталіцкі касьцёл ужо падтрымалі сьвядомыя й шчырыя людзі розных станаў — і рабочыя, і сяляне, і службоўцы, і нават згуртаваньне беларускай шляхты. Ініцыятыўная група каталіцкай грамады «Чырвоны Касьцёл» — касьцёл Сымона і Алены — заклікае суайчыньнікаў садзейнічаць ёй сваім удзелам у справе адраджэньня й пашырэньня вучэньня каталіцкай царквы ў Беларусі. Мы ўпэўнены, Спадарыні й Спадары, што вы падтрымаеце нас у нашых стараньнях вярнуць беларускаму народу сваю сьвятыню, гэтак званы Чырвоны Касьцёл, што ў Менску, каб ён зноўку стаў служыць духоўнаму згуртаваньню й росту нацыі, а мы, Беларусы, змаглі ў ягоных сьценах ды пад ягонымі скляпеньнямі несьці малітвы Богу на сваёй роднай мове, а не на чужой нам, незразумелай нашым дзецям ды ўнукам.

Мы спадзяёмся, што нашыя намаганьні будуць вамі зразуметыя й падтрыманыя, тады агульным духам мы дасягнем адраджэньня Беларускай нацыянальнай каталіцкай царквы, а праз яе адраджэньне мы прыйдзем да адраджэньня нашага старажытнага народу. Памажы нам, Божа! Амэн.

**Аргкамітэт**

Лісты накіроўваць на адрас:
220040 Беларусь
Мінск, вул. Верхняя, 20-1
Барташэвіч Віктар
тэл.: 31-99-49, 71-33-60

# КЛІЎЛЕНДЗКІЯ СПАТКАНЬНІ 1990

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

функцыянальным сэньсе — будзе задавальняць усе патрэбы: сустрэчы, канфэрэнцыі, канцэрты, пробы. Цешыць, што мы тут пачынаем зьбірацца, пачынаем працягваць адзін аднаму рукі праз кантынэнт, пачынаем станавіцца тварам адзін да аднаго, каб пачаць рабіць разам справу, якую нам яшчэ трэба рабіць — бараніць сваю культуру, сваю мову. Умовы цяпер на Беларусі спрыяюць таму, каб мы пачалі працаваць разам. Цяпер стаіць пытаньне аб выжыцьці Беларусі, Беларусаў. Нам важныя культурныя кантакты. Дзьве нашыя дэлегацыі былі ўжо тут, і было зроблена ўсё, каб «Васілёк» прыехаў на Беларусь. «Радзіма» пляную курсы кіраўнікоў мастацкіх самадзейных гурткоў. Можа хтось з «Васілька» зноў прыедзе.

**МІХАСЬ НАЎМОВІЧ, старшыня «Хаўрусу» ў Францыі, мастак, выставіў свае працы на сустрэчы:**

На сустрэчах я ўжо чацьверты раз. У гэтым годзе езьдзіў у Чыкага да свайго прыяцеля, Гэнрыка Сяньkевіча. Прыехаў са ваёй дачкой, а з Чыкага прыбылі на сустрэчу разам зь Сяньkевічам — гэта ягоны першы ўдзел у сустрэчы — дзеля нас.

Што да маіх ураханьняў, дык найперш аб будынку. Ён прыгожы — мураваны, прасторная заля — архітэктурна мне вельмі падабаецца, як мастаку. Асьвятленьне вельмі ўдалае. Уваход з зэнітальным асьвятленьнем, гэта геніяльная знаходна. Заля прастакутная, функцыянальная, удэкараваная проста, але з густам.

Сустрэча сёлетняя вельмі ўдалая, хіба шмат да гэтака спрычынілася й новая заля. Усім прыемна правесьці гэтае сьвята ў новым доме — гэта як-бы сымбаль нашай абноўленай веры ў будучыню.

**ВАЛЯНТЫН СТЭХ, старшыня Беларускага клюбу «Сябрына» ў Вільні:**

Першы раз у Амэрыцы. Уражаньне самае найлепшае, асабліва што датычыцца багаслужбы ў царкве. Уразіла, што служба на беларускай мове, што было шмат сьвятароў, вернікаў. Я католік, але, можна сказаць, упяршыню адчуў сябе сваім сярод праваслаўных субратоў. Хоць служба была й даўгая, я з прыемнасьцю выслухаў усё, што там пяялася й гаварылася ад пачатку да канца. Быў-бы вельмі рады, калі-б у нас на Віленшчыне, на Беласточчыне, на Беларусі ў сьвятыні таксама гэтак натуральна, нязмушана гучэла беларускае слова, як тут ў Кліўлендзе. Думаю, што для нас было-б вялікай дапамогай з боку эміграцыі, каб прынялі на стажыроўку нашых маладых Беларусаў, якія-б пасьля навучаньня тут, маглі-б, вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, несьці слова Божае ў народ у роднай мове.

Вельмі радуе, што на гэтую сустрэчу зьехалася значна больш Беларусаў, чым можна было сабе ўявіць у нас на Віленшчыне. Радуе, што людзі прыехалі ня толькі з Паўночнай Амэрыкі, як абвешчана ў назьве сустрэчы, але фактычна з усіх куткоў сьвету. Радуе, што людзі не палічыліся з выдаткамі, зьвязанымі з падарожжам, а выканалі свой абавязак перад Бацькаўшчынай.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК зь Беласточчыны, сябра галоўнай рады Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня:**

Я, можа, выкажу свае думкі, не агульныя, не на пахвалу кліўлендцам, бо ўжо шмат хвалілі. Гэта будуць мае ўражаньні як Беларуса зь Беласточчыны й чалавека, які займаецца вывучэньнем эміграцыі. Зрабіла ўражаньне на мяне колькасьць беластоцкіх эмігрантаў на сустрэчы — новая эміграцыйная плынь ужо выразна заўважаецца. Эміграцыя гэтая яшчэ не абжытая, але ўжо выразна заўважаецца. Эміграцыя гэтая яшчэ не абжытая, але ўжо прымае актыўны ўдзел у жыцьці беларускай Амэрыкі, і ейная роля, думаю, будзе расьці. Дзе ні кінеш вокам на залю, бачыш нейкага земляка. Магчыма, з гадамі беластоцкая эміграцыя пяройме беларускую справу ў Амэрыцы. Хіба што падменіць яе новая хваля эмігрантаў зь Беларусі, бо й гэтага можна спадзявацца.

Такія сустрэчы, асабістыя знаёмствы Беларусаў, якія зьехаліся з розных краёў, будуюць пачуцьцё супольнасьці, усьведамленьня сябе як нацыі, і гэта, зразумела, штуршок для далейшай дзейнасьці.

## «ЖЫВІЦА» Ў САЎТ-РЫВЭРЫ

У сыботу 15 верасьня ансамбль «Жывіца», пасьля сваіх выступаў у Кліўлендзе на Сустрэчы і ў Чыкага, даў канцэрт у Саўт-Рывэры. Заля Беларускага Грамадзкага Цэнтру была перапоўненая людзьмі, шмат каму ня стала білетаў.

Ад імя ўдзячнай аўдыторыі цёплымі словамі віталі артыстаў з Бацькаўшчыны сп-ні Ірэна Цупрык і Віла Саўчанка. Песьні Вялянтыны Пархоменка, Алеся Казака, музыка цэлага таленавітага ансамблю кранула ўсіх да глыбіні душы.

Арганізацыйны камітэт (старшыня сп. М. Бахар) добра справіўся з заданьнем: была падрыхтаваная багатая вячэра, выданыя два памяткавыя жэтоны. Пасьля канцэрту й вячэры ўсе весела гулялі пад аркестру Аляксея Альхоўскага.

**Рэха вайны**

## СУДОВАЯ СПРАВА С. ГУТЫРЧЫКА

Мясцовыя газэты ў штаце Нью-Джэрзы (The Star-Ledger, Aug. 16, The Home News, Aug. 17, Spectator, Aug.) зьмясьцілі паведамленьні, што Аддзел спэцыяльных расьсьледаваньняў Міністэрства юстыцыі ЗША аднавіў судовую справу супраць сп. Сяргея Гутырчыка, актыўнага сябры беларускай грамады ў штаце Нью-Джэрзы, абвінавачваючы яго ў тым, што ён быў ахоўнікам у канцэнтрацыйным лягеры ў Калдычэве каля Баранавічаў, дзе, паводля абвінавачаньня, Гутырчык «меў нагляд над ахоўнікамі, пасылаў ахоўнікаў на іхныя пасты, сам трымаў варту і браў удзел у забойствах Гэбрэяў ды іншых зьняволеных у лягеры».

Абвінавачаньні гэтыя ня новыя. Яшчэ ў 1962 годзе, у самым гарце «халоднае вайны», прозьвішча Гутырчыка было названае ў брашуры Галіны Паромчык «Калдычэўская трагедыя» (бібліятэчка газэты «Голас Радзімы») у ліку «ваенных злачынцаў» з дамаганьнем «суровай кары». Усе папярэднія расьсьледаванні, якія амэрыканскае Міністэрства юстыцыі пачало праводзіць яшчэ ў 1970-х гг., не прывялі аднак да пацьверджаньня абвінавачаньняў. Цяпер, паводля газэты «Гоўм Ньюз», падзеньне Бэрлінскай сьцяны дало доступ да новых архіваў.

Суседзі сп-тва Гутырчыкаў вельмі зьдзіўленыя газэтнымі артыкуламі пра чалавека, якога яны ведаюць як «добрага, ветлівага». Сам Сяргей Гутырчык кажа, што ён ня меў ніякага дачыненьня да забойства зьняволеных у Калдычэве, што абвінавачваньні яго — гэта вынік былое савецкае кампаніі паклёпаў на беларускую палітычную эміграцыю, а ў тым ліку і на яго, ды што ён і надалей будзе запярэчваць гэтым паклёпам, калі справа дойдзе да фармальнага разгляду яе ў судзе.

## «КП ϟϟ»



*Гэты фатаздымак узяты зь «Сельской газеты» (7. IX. 90). Гэта — ілюстрацыя да рэпартажа (аўтар: Ю. Суцько) пра санкцыянаваны мітынг у Берасьці, які адбыўся на стадыёне «Будаўнік» і на якім было, паводля «СГ», «тысячаў тры чалавек». Беспасярэдняй прычынай скліканьня мітынгу стаўся факт продажу тухлай каўбасы ў адным з магазынаў гораду ды іншыя матар'яльныя цяжкасьці («шкарпэтак у Берасьці выдаюць па талонах адну пару ў тры месяцы»). Сярод плякатаў, якімі суправаджаўся мітынг, былі і вышэй сфатаграфаваныя два плякаты. На адным зь іх на фоне карты Беларусі (з датамі: «1917—199?») выкладзены з чалавечых касьцей напіс «КПСС», прычым літары «СС» маюць гатыцкую форму, гэтак як іх пісалі эсэсацыі: ϟϟ . Чорная паласа на карце выглядае як калючы дрын — сымбаль сьмяротнае прылады бальшавікоў, ад якіх загінула на Беларусі больш людзей, чымся ад нямецкіх фашыстаў.*

> «У адрозьненьне ад Сталіна Ленін пакінуў масу дакумэнтаў і сьветчаньняў аб уласнай ініцыятыве і прыналежнасьці да арганізацыі масавых забойстваў, расстрэлаў, зьнішчэньня нявінных людзей, арганізацыі канцэнтрацыйных лягераў, тэрору, нечалавечых жорсткасьцяў і генацыду. Частка гэтых дакумэнтаў зьмешчана ў яго поўных зборах твораў, частка апублікаваная нядаўна, як, напрыклад, фэнамэнальны па сваім жудасным злачынным цынізьме сакрэтны ліст У. Леніна ад 19 сакавіка 1922 году для членаў Палітбюро аб правядзеньні расправы над праваслаўным духавенствам з мэтай запалохваньня Царквы, з прапановай правадыра расстраляць 'чем больше... тем лучше' і 'с такой жестокостью, чтобы они /праваслаўнае духавенства — З. П./ не забыли этого в течение нескольких десятилетий' (Собеседник, Москва, 1990, апрель, № 16, с. 7). Згодна гэтага пляну і ініцыятывы У. Леніна было расстраляна звыш васьмі тысячаў чалавек, у тым ліку Петраградзкі мітрапаліт Веніямін.... Ленінскі культ кансэрватары-камуністы па інэрцыі падтрымліваюць і сёньня, апэлюючы да 'геніяльнасьці' Леніна...
>
> «Знаёмства з фактамі, сьветчаньнямі і дакумэнтамі, зьвязанымі зь дзейнасьцю Леніна з 1917 па 1922 г., раскрывае перад намі тыпаж дзеяча не абцяжаранага ніякімі законамі маралі і права, акрамя права неабмежаванай асабістай улады і палітычнай мэтазгоднасьці». — Зянон Пазьняк. Шлях да свабоды. «Беларусь», 1990, № 7, с. 21.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдне ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| А. Беленіс | ам.д. 1000 |
| М. і В. Махнач | 150 |
| Я. Юхнавец (замест кветак на магілу с.п. Э. Шабуні) | 20 |
| К. Акула (замест кветак на магілу с.п. Б. Лішчонка) | 25 |
| В. Ракуць | 50 |
| О. Арэхва | 30 |
| с. п. С. Антонік | 50 |
| Б. Шабуня | 30 |
| Я. Фядорчык | 50 |
| У. Акавіты | 57 |
| М. Раецкі | 57 |
| Бел.-Ам. Згуртаваньне Жанчын у Кліўлендзе (замест кветак на магілу с.п. К. Каляды) | 100 |
| І. Каханоўская | 25 |
| В. Рамук | 50 |
| Л. Паплаўскі | 60 |
| К. Верабей | 20 |
| Я. Калбаса | 30 |
| М. Віценчык | 30 |
| Я. Жучка | ням.м. 100 |
| В. Станкевіч | н.м. 50 |
| Л. Урбан | н.м. 50 |
| А. Гаеўскі | н.м. 50 |
| В. Фрэйдкін | н.м. 50 |
| А. Левіна | н.м. 50 |
| Ю. Сенькоўскі | н.м. 50 |
| П. Урбан | н.м. 50 |
| Ул. Цьвірка | н.м. 50 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | кан.д. 500 |
| Ю. Беразоўскі | ам.д.50 |
| К. Шаршуновіч | 40 |
| М. Кулеш | 40 |
| П. Алексы | 30 |
| У. Лукашэвіч | 30 |
| П. Пашкевіч | 25 |
| Я. Мол | 20 |
| У. Бакуновіч | 20 |
| М. Русак | 20 |
| Л. Норык | 20 |
| С. Шыян | 20 |
| Т. Супрун | 20 |
| О. Грыцук | 20 |
| Л. Саковіч | 20 |
| а. А. Яноўскі | 20 |
| М. Казьлякоўскі | 20 |
| М. Кухарчык | 20 |
| Усяго | 935 |

Усім шчыры дзякуй!

**Выдавецтва «Беларус»**

## БЕЛАРУСЬ НА КАРТАХ

Аўстрыяцкі інстытут дасьледаваньня Усх. і Паўдз. Эўропы ў Вене выдае вельмі добра апрацаваную сэрыю розных картаў з апошнімі дадзенымі пра эканоміку, дэмаграфію і іншыя аспэкты разьвіцьця паасобных рэгіёнаў і краёў. Да кожнай карты прыкладзеная брашура з навуковай інфармацыяй. На некаторых картах нанесеная і Беларусь.